# БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР



ШТОМЕСЯЧНАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ.



М. В. ФРУНЗЭ з дзецьмі.

Перад сьвежай магілай нашаго слаўнага байца і правадыра Чырвонае арміі—М. В. Фрунзэ нізка схіляем свае піонэрскія сьцягі.

Сьпі-ж ты спакойна, баец няутомны!

Толькі стыхія прыроды магла асіліць стойкага ленінца.

Мы, яшчэ юныя ленінцы, запэўніваем працоўных, што ня толькі здабудзем усясьветную волю, як вырасьцем, а й пераможам стыхіі прыроды.

Будзем-жа сьмела з ленінскім сьцягам імкнуцца наперад да комунізму, будзем ажыцьцяўляць заветы і мары нашага слаўнага і дарагога бацькі Чырвонай арміі—М. В. ФРУНЗЭ.

З допісу піонэра К. БАРКАНА.

№ 11 1925 г.



# СХІЛЕЦЕ СЬЦЯГІ.

Памёр рэволюцыянэр, комуністы, *кіраўнік Чырвонай Арміі. Правадыр. Таварыш!* Ня стала Міхася Васільлевіча Фрунзэ.

А між тым сьмерць забірае ад нас па аднаму з лепшых старэйшых бальшавікоў.

Радзеюць шэрагі старое гвардыі.

Яшчэ адзін жорсткі ўдар. Яшчэ адна неўзнагародная загуба.

Яго жыцьцё—гэта шлях старога партыйца. Яго шлях—*ад нелегальнага гуртка да кіраўніцтва магутнай Чырвонай Арміяй СССР.*

У 1885 г. у гор. Прышпеке Сямірэчанскай вобласьці Туркастанскай краіны ў сям'і селяніна Хэрсонскай губэрні радзіўся Міхась Васільлевіч.

Яшчэ ў часе яго вучэньня ў гімназіі ён пачынае знаёміцца з рэволюцыйнымі ідэямі. З першага году унівэрсытэцкага жыцьця *ён уступае ў соцыял-дэмократычную партыю і адразу далучаецца да бальшавікоў.* З 19 год ён ужо стаў прымаць актыўны ўдзел у дзейнасьці бальшавіцкіх організацый. Пачынаючы з 1904 году да 1907 г., ён некалькі разоў падпадаў пад арышты.

### Стрэл у вурадніка.

У студзэні 1907 году на аднэй з акраін гораду Шуі група падпольных рэволюцыянэраў бальшавікоў сустрэла выпадкова вурадніка Пярлова, які жорстка сачыў за рэволюцыянэрамі. Нехта з групы заўважыў, што добра было-б зьняць вурадніка і яшчэ нешта ў гэтым родзе. Тады другі прыпаў на калені, вынуў „маўзэр" і стрэліў. Куля праляцела міма. Вураднік хутка аглядзеўся вакол і ў свой чарод пачаў страляць. У таго, хто страляў, засеў патрон у рэвольвэры... Прышлося ўцякаць. Той, хто страляў, насіў прозьвішча *„Арсенія"*. Гэта быў малады студэнт, з прамяністымі вачыма. Ён прыкульгваў на адну нагу, таму што ў 1905 годзе яго сьцягнулі на аркане п'яныя, азьвярэўшыя казакі ў часе пагрому. Мянушка *„Арсеній" прыналежала Міхасю Васільлевічу Фрунзэ.*

### Арышт.

24 сакавіка 1907 году ў аднэй з патайных кватэр у гор. Шуі Міхась Васільлевіч быў заарыштаваны. У часе арышту ён хацеў адстрэльвацца, але не адважыўся на гэтае, бо ў доме былі дзеці і іншыя людзі. Вестка аб гэтым арышце хутка абляцела ўвесь горад. Фабрыкі спыніліся. Рабочыя спынілі працу і вялікім натоўпам падышлі да турмы і патрабавалі вызваленьня „Арсенія". Перапуджанаму ісправьніку толькі хітрасьцю і фальшывымі абяцаньнямі ўдалося ўгаварыць натоўп і экстрэнна накіраваць „Арсенія" ва Ўладзімер.

### На катарзе.

А пасьля гэтага Міхась Васільлевіч—пад судом: судзілі, справа кончылася катаргаю. *Шэсьць год прышлося прасядзець ва Ўладзімерскім цэнтрале, у мяртвячых, шэрых, пахмурых абставінах.*

Міхась Васільлевіч будзіў думку таварышоў, не даваў памерці жывому пачуцьцю, уносіў супакаеньне ў раздражнёную, нэрвовую, напружаную атмосфэру бязрадасных, цяжкіх турэмных дзён.

У гэтыя дні ў катаржных турмах адбывалася „порка" і самыя нахабныя зьдзекі над політкатаржанамі.

Адзін час начальнікам Уладзімерскага цэнтралу быў нейкі Гудзіма. Агідны тлусты мясьнік, з гнілым дыханьнем і вачыма лютага ката.

Асабліва моцным у яго было жаданьне пазьдзеквацца над тав. Фрунзэ, цялесна яго пакараць.

Калі-ж паміж політычнымі заарыштованымі адбываліся сутычкі, сваркі і г. д., зьвярталіся да таварыша Фрунзэ.

„І такога чалавека ні разу ня высячы, не палажыць на козлы... Хоць раз... Няхай ня думае аб сабе"... думаў мясьнік.

Але гэты мясьнік так і не знашоў падхадзячага выпадку.

### У дні Кастрычніка.

Пасьля турмы—сасланьне на пасяленьне ў Вярхоленскі павет Іркуцкай губ. У жніўні 1915 году ўцёк з турмы і працаваў у Забайкальлі, а пасьля перабраўся ў Расію.

К моманту Лютаўскай Рэволюцыі Міхась Васільлевіч стаяў на чале рэволюцыйнага руху ў Менску, у Беларусі і на заходнім фронце.

У часе Кастрычнікавай Рэволюцыі тав. Фрунзэ становіцца на чале ўзброеных сіл Шуйска-Іванаўскага раёну, прыяжджае ў Маскву 30 кастрычніка з 2000 узброеным атрадам салдат *і прымае непасрэдны актыўны ўдзел у кастрычнікавых бойках.*

### Разьбіў Калчака.

У красавіку 1919 году, у момант найвышэйшага разьвіцьця наступленьня калчакоўшчыны тав. Фрунзэ быў прызначаны камандуючым чатырма арміямі.

Ён організуе і праводзіць удар у фланг калчакоўскіх армій і прыводзіць да зрыву наступальнай опэрацыі Калчака і хуткаму адыходу яго армій на ўсім ўсходнім фронце.

Застаючыся камандуючым Паўднёвай групай, тав. Фрунзэ прымае непасрэднае кіраўніцтва Туркастанскай арміяй, якая дзейнічае на Уфімскім напрамку.

### Пад Уфой.

У далёкіх паволскіх стэпах доўгімі баявымі колёнамі расьцягнулася Уфімская дывізія чорнага адмірала. Яны йшлі на Маскву. Гэта былі лепшыя часткі старога войска.

Насустрач ім, па той бок баявой лініі, вагоны выкідвалі маладыя, неакрыяўшыя часткі новай арміі. Сярод новых салдат мільгалі шапкі-шлемы, з чырвонымі зоркамі, так падобныя на шлемы варагаў і старажытных багатыроў. Яны прышлі з краіны, абкружанай вогненным колам, з краіны, якая, здавалася, задыхалася ў гэтых сьмяротных халодных абоймах.

Зараз яны сойдуцца ў апошняй мёртвай бойцы... Яны сышліся: Уфімская дывізія разьбіта.

Слава маладой арміі. Але не забудзем яе камандуючага тав. Фрунзэ, бо ён ніколі ня быў у вайсковых штабах і акадэміях, але паказаў сябе выдатным чырвоным палкаводцам...

### Супроць Капэлеўцаў.

...Ідуць Капэлеўцы... Палкі Капэля ня ведаюць перамог... Палкі Капэля йдуць на Маскву, на іх вагонах напісана: *„Курган—Уфа—Масква"*... З імі самыя вопытныя вайсковыя спэцыялістыя старой арміі.

Зноў бойка. Капэлеўцы разьбіты...

Эпізод з бойкі... Полк са шлемамі і чырвонымі зоркамі перапраўляецца цераз раку. Вораг засыпаў знарадамі.. Яго ланцугі (цэпі) усё мацней і сьмялей робяць перабежкі. Людзі ў шлемах зьбянтэжыліся... Вось дрыгнуў адзін ланцуг, растаў другі...

— Таварышы!—сюды. Ні кроку назад! За мною! Напарад! Камандуючы з вамі!—Прыкульгваючы бяжыць уперадзе чалавек з вінтоўкаю ў руках.

— Напарад! Напарад!—Камандзір дывізіі, беззаветна адважны Чапаеў, крычыць:

— Таварыш камандуючы! Ідзеце адсюль! Тут вам ня месца.

— Напарад! За мною! Я прымаю камандваньне палком.

— Таварыш камандуючы! Тут я—камандзір дывізіі, вы ня маеце права распараджацца маімі часьцямі...

Падае знарад... контузія...

Гонар і хвала чалавецтву, у шэрагах якога б'юцца такія людзі.

### Міхась Васільлевіч—Наркомваенмор.

**1-га красавіка 1924 году тав. Фрунзэ становіцца Намесьнікам Старшыні Рэв. Вайсковага Савету Рэспублікі.**

**26 студзеня ён быў вызначаны Наркомам па вайсковых і морскіх справах**

Як ён зрабіўся стратэгам і палкаводцам?

Зразумела, ён не сядзеў, зложачы рукі, а вучыўся, чытаў, браў лекцыі ў старых спэцыялістых, правяраў кожны свой крок. У свабодныя моманты ён гатоў з захапленьнем прыводзіць у парадак аружжа: чысьціць, зьбіраць і разьбіраць яго...

### Рыхтуйце зьмену паўшым.

Вось шлях, які прашоў правадыр агітатар-марксысты, цьвёрда-каменны бальшавік, камандуючы, з вінтоўкай у руках разам і наперадзе з байцамі.

**Піонэры павінны запамятаць жыцьцё гэтага чалавека.**

**Ня плачам, а далейшай натужнай працай будзем рыхтаваць у сваіх шэрагах годных замяніць тав. Фрунзэ.**

**І. Жасьцянікаў.**




ШТОМЕСЯЧНАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ
ОРГАН
ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСЬВЕТЫ БССР

— АДРАС РЭДАКЦЫІ: —
Менск, Пляц Волі, Наркамасьветы БССР,
тэлефон № 443.

**№ 11.** **ЛІСТАПАД** **1925 г.**



## Францыск Скарына—першы беларускі вучоны і друкар.

Роўна 400 год прашло з таго часу, калі ў першы раз зьявіўся на Беларусі друк. Да гэтага часу ў нас ніхто і ня ведаў аб друкаваных кніжках. Кніжкі пісаліся ад рукі. Але ясная справа, што ад рукі шмат кніжак не напішаш. І калі хто з пісьменных людзей хацеў мець сабе кніжку, то ён даставаў арыгінал гэтае кніжкі ў каго ён меўся і перапісваў. Дый наогул у тыя часы вельмі мала было такіх людзей, што мелі ў сябе пад рукамі тыя ці іншыя кніжкі. Кніжкі меліся толькі ў багатых князёў і ў манастырох. Кніжкі пісаліся манахамі, якія мелі для гэтай справы час, і выключна на рэлігійныя тэмы.

Але вось у 1525 годзе ў г. Вільні была надрукавана першая кніжка — „Апостал“ — Францыска Скарыны. Праўда, Францыск Скарына распачаў сваю працу па выданьні кніжак раней гэтага часу. Яшчэ ў 1517 г. ён надрукаваў у беларускай мове дзьве кніжкі старога закону „Псалтыр“ і „Біблія“. Але гэтыя кніжкі друкаваліся ім ня ў нас, на Беларусі, а ў Чэхіі, у гор. Празе. Апрача гэтых кніжак, ім была выдана, крыху пазьней ад выхаду „Апостала“, „Малая падарожная кніжыца“, дзе былі зьмешчаны розныя царкоўныя службы і малітвы для тых людзей, якія езьдзілі ў вялікую падарож і ня мелі па чым маліцца. А людзі таго часу былі [illegible]ьмі багамольныя, навука яшчэ не стаяла тры[illegible]ака, як цяпер. Людзі верылі ў тое, што ім гаварыла царква. Самі ні ў чым дасканала не разьбіраліся.

Цяпер паўстае пытаньне: хто такі быў Скарына па паходжаньні і чаму яго лічаць першым беларускім вучоным і друкаром?

Францыск Скарына радзіўся у гор. Полацку. Дасканальных вестак аб годзе яго нараджэньня ў навуцы няма. Прыблізна час яго нараджэньня адносіцца да 1490 г., а час сьмерці—да 1550 г. Францыск Скарына вышаў з гандлярскай сям'і. Першую асьвету ён атрымаў у сваім родным г. Полацку. Але гэтая асьвета яго не задаволіла. Францыск Скарына пасьля Полацку пападае заграніцу, у Чэхію, дзе скончыў Кракаўскі унівэрсытэт і атрымаў дыплём (званьне) вучонага доктара. Апрача Кракаўскага унівэрсытэту, Францыск Скарына вучыўся яшчэ ў Італіі, дзе высака ўжо была разьвіта тагочасная культура.

Пасьля сканчэньня сваіх навук Францыск Скарына цалком аддаецца культурна-асьветнай справе. З гэтаю мэтай ён і распачынае сваю друкарскую працу на карысьць свайго простага, як ён лічыў, народу. Францыск Скарына ў сваёй працы імкнуўся да таго, каб даць для шырокіх кол грамады ясную, у зразумелай мове, кніжку, якая-б магла пашыраць асьвету між гэтай грамады. Кніжкі, якія выдаваў Скарына, былі ім пераложаны з чужаземных моў. Перакладаў ён кніжкі

на тэй мове, якая ўжывалася ў простым народзе. А з тэй прычыны, што Францыск Скарына вырас і жыў на Беларусі, мова яго перакладаў была вельмі блізкай да мовы беларускага народу таго часу.

Францыск Скарына быў сам набожным чалавекам і лічыў, што ўсе навукі маюць свой грунт, свой пачатак толькі ў царкоўных кнігах. Таму ён і пачаў перакладаць і выдаваць гэтыя кніжкі.

Якое-ж наогул мае значэньне для нас Францыск Скарына? паўстае, урэшце, пытаньне. Якую ён даў карысьць для нас тым, што друкаваў свае кнігі?

А значэньне ў разьвіцьці беларускай культуры Ф. Скарына мае вялікае. Ён быў першым чалавекам у нас, на Беларусі, які пачаў пашыраць асьвету праз друкаванае слова. Ён першы пачаў апрацоўваць і ўдасканальваць у сваім асаблівым скарынінскім стылі друкарскую тэхніку, залажыўшы ў г. Вільні сваю друкарню. Францыск Скарына сам выразаў на дрэве розныя прыгожыя орнамэнты, малюнкі, загалоўныя літары і інш. Апрача гэтага, ён сьвядома ставіў перад сабою ідэю служэньня „простаму люду“, як ён яго называў.




І яшчэ заслуга Ф. Скарыны ў тым, што праз яго пачала шырыцца друкарская справа і на ўсход, у Маскоўшчыну. Яго кніжка „Апостал“, надрукаваная ў г. Вільні, была першая, якая зьявілася ня толькі на тэрыторыі Беларусі, але й на ўсім Усходзе. Наша беларуская культура бярэ свой пачатак ад часу жыцьця і працы гэтага першага беларускага вучонага і друкара—Францыска Скарыны. І трэба сказаць, што грунт для стварэньня сваёй нацыянальнай культуры, заложаны Ф. Скарынай, быў даволі моцны. Беларуская культура таго часу мала была слабейшай за культуру нашых заходніх суседзяў і значна вышэй стаяла ад культуры Маскоўшчыны. У Маскоўшчыне першая друкаваная кніжка зьявілася толькі ў 1573 годзе— на 48 гадоў пазьней чым у нас.

Ф. Скарына, такім чынам, для нас зьяўляецца першым беларускім піонэрам у культурна-асьветнай справе. І толькі пазьней наша культура, дзякуючы соцыяльным і палітычным умовам, заняпала. Беларусь аж да Вялікага Кастрычніка пераходзіла з рук у рукі сваіх суседзяў—Польшчы, Літвы і Маскоўшчыны, якія стараліся зьнішчыць Беларусь, як нацыянальнасьць, і прысвоіць яе за сваю краіну.

Цяпер, пасьля канчатковага нацыянальнага і соцыяльнага вызваленьня Беларусі Вялікім Кастрычнікам, наша культура хутка пачала адраджацца. Гэтае адраджэньне, у сутнасьці сваёй формы, мае свае глыбокія карані ў мінулай культуры Беларусі. Вось у чым выяўляецца каштоўнасьць для нас Ф. Скарыны, як першага беларускага вучонага і друкара. Вось чаму працоўная Беларусь і адзначае 400 годзьдзе з часу зьяўленьня першай кніжкі Ф. Скарыны на Беларусі ў роднай мове, як сваё нацыянальнае сьвята, як сьвята нацыянальнай культуры.

**А. Якімовіч.**



## За старэйшых братоў.

(*Апавяданьне*).

Ціха-ціха стаяў цёмны бор. Круглы месяц раскідаў залацістыя косы на кучараве гальлё сініх хвой. Доўгай бліскучай істужкай прабягала ля высокіх дрэў дарога. Па дарозе весела і лёгка неслася кабылка. На санях сядзелі два комсамольцы: Андрэй і Сьцяпан, і піонэр Тодарка. Усе яны ехалі з раённага збору піонэр-працаўнікоў. Шмат пасьля сходу было розных пытаньняў; хлопцы іх абгаварвалі, і ім было весела.

Калі яны павярнуліся за вугал узгорку—кабылка чагосьці захрэпла, падняла вушы і скочыла наперад. Хлапцы пачалі аглядацца. Праз некалькі хвілін убачылі яны ззаду зялёна-сьветлыя аганькі, якія перабягалі з аднаго месца ў другое і набліжаліся да іх.

— Гэта ваўкі...—сказаў Сьцяпан:—яны нас заўважылі і ляцяць да нас, але хай толькі падбягуць, пачастую я іх...

Ён хутка разгарнуў салому ў возе і дастаў адтуль стрэльбу. Ваўкі ўжо былі блізка. Сьцяпан злажыўся і выпаліў. Гулка раскаціўся стрэл па бары, адгукнуўся рэхам і замёр у лясной цішы. Адзін воўк перакуліўся і выцягнуўся на дарозе. Доўга не чакаючы, другія ваўкі пачалі рваць на кавалкі свайго забітага таварыша. Кабыла неслася. Некалькі хвілін, і яны былі за паваротам.

— Уцяклі!—сказаў Сьцяпан.

Але Тодарка, добра ведаўшы звычай ваўкоў, ведаў, што яны не здаволяцца гэтым. Ён помніць, як нядаўна воўк, схапіўшы ягнятка, зьеў яго і прышоў зноў у чараду, якую пасьвіў Тодарка. І, як ня крычаў на ваўка Тодарка, як ня кідаў каменьнямі, воўк схапіў і другое. І толькі людзі, набегшы з паплавоў, спужалі і прагналі ваўка.

— Не, не ўцяклі!—адказаў Тодарка:—яны, як зьядуць ваўка, зноў пагоняцца за намі. Кепска будзе, калі не даляцім да вёскі...

— Тодарка сказаў праўду. Кабыла зноў пачула ваўкоў, якія несьліся па дарозе за хлапцамі. Сьцяпан зноў злажыўся і забіў другога ваўка. Кабыла была старая і хутка стамілася, а вёска яшчэ была далёка.

Сьцяпан увесь час трымаў у руках стрэльбу, быў гатовым біць кожную хвіліну нападаючых ворагаў. Андрэй дастаў з кішэні нож. Тодарка таксама думаў аб пляне вызваленьня ад ваўкоў.

— Хлапцы,—сказаў ён:—ляпей паслухайце мяне. Я ўзьлезу на якое-небудзь дрэва і затрымаю іх на некаторы час, а вы, як толькі даедзеце да вёскі, зьбірайце людзей і прыяжджайце за мной

— Замерзьнеш!.. Такі мароз,—не дазвалялі хлапцы застацца Тодарку на дрэве.

Тодарка іх не паслухаў, выскачыў з саней і палез на дрэва. Хлапцы кінуліся за ім, але Тодарка ўжо быў высака на дрэве.

— Кінь, Тодарка, кінь!... Паглядзі, які мароз!—крычалі яму хлапцы.

— Ня ваша справа,—адказаў ім Тодарка:—хутчэй уцякайце. Ваўкі ўжо блізка!

Хлапцы залезьлі ў сані і паляцелі, а Тодарка застаўся на дрэве.

— Захапеце з сабой валёнкі і кажух!—наўздагон крычаў ім Тодарка.



Ваўкі, пачуўшы крык Тодаркі, застанавіліся ля дрэва, выскалілі зубы і пачалі кідацца на гэтае дрэва. Адзін з іх падскочыў так высака, што ледзь не дастаў Тодаркавых ног. Паляскаўшы зубамі, ваўкі прыселі ля дрэва, як убачылі, што дастаць Тодарку немагчыма. Тодарка, ня маючы чаго рабіць, пачаў лічыць ваўкоў. Налічыў 19.

Ваўкі паляцелі зноў па дарозе за хлапцамі.

„Дагоняць“... з страхам думаў Тодарка: „яны яшчэ зусім блізка“. І Тодарка пачаў голасна крычаць. Ваўкі застанавіліся, агледзеліся і зноў пабеглі далей. Тодарка яшчэ мацней пачаў крычаць і кінуў на зямлю сваю сьвітку. Ваўкі, заўважыўшы, як паляцела на зямлю нешта чорнае з дрэва, рынуліся назад. Яны думалі, што гэта кінуўся Тодарка.

„Вось, каб гэта зваліўся ў гэтую кучу ваўкоў, парвалі-б за адну хвіліну“... думаў Тодарка, седзячы на дрэве.

Ваўкі пачалі рваць на кавалкі сьвітку. У сьвітцы яны знашлі толькі кавалак хлеба і

сала. Пачалі грызьціся за яго. Адзін хапаў другога, перакульваліся, ляскалі зубамі.

Але хутка хлеба ня было, і ваўкі рынуліся далей па дарозе.

— Цяпер, ужо не дагоніце!—кінуў ім у здагон Тодарка.



Калі ваўкі зьніклі з вачэй, Тодарка пачуў, як ўсюды па скуры яго прабег страшэнны холад, пальцы на руках і нагах замерзьлі зусім. Ён пачаў шавяліцца, але нічога не памагала. Тодарка адчуваў усё, што раз больш і больш холад і дрыжэў, як асінавы ліст.

— Трэб злазіць,—парашыў ён і хацеў зьлезьці, але тут-жа скінуўся і заснуў...

Хлапцы хутка даляцелі да вёскі. Забеглі ў хату-чытальню, дзе яшчэ гарэў агонь. Андрэй віхрам уляцеў у хату-чытальню і хутка перадаў прысутным аб іх здарэньні.

Не прашло й дзесяці хвілін, як хлапцы ўжо з падмогаю несьліся назад да лесу, дзе застаўся Тодарка.

— Вось хвоя, дзе сядзеў Тодарка! Дзе-ж ён? – непакоіўся Андрэй.

— Замёрз, мусіць?!—гаварылі другія.

Але пад'ехаўшы блізка, хлапцы ўбачылі Тодарку, які ляжаў ля хвоі.

— Замёрз, замёрз! .. крычалі ўсе ў адзін голас.

Пачалі аглядаць Тодарку.

— Жыў! Жыў!!—з радасьці закрычаў Андрэй.

Увесь пасінеўшы, Тодарка ледзь, ледзь дыхаў. Хлапцы пачалі націраць яго сьнегам. Тодарка хутка адчыніў свае памутнеўшыя вочы.

Тодарку апранулі, укруцілі ў кажух і павезьлі да хаты.

— Сыночак, родненькі!... Што вы зрабілі майму сыну? Хто эта яго забіў?—плакала матка, як убачыла Тодарку, які ляжаў нярухома на возе ля сваёй хаты.

— Ня плач, цётка, ён жывы!—суцешыў яе Сьцяпан.

— Я жыў, жыў, мама!.. ня плач!

І Сьцяпан пачаў апавядаць маці, як гэта ўсё здарылася і як Тодарка выратаваў іх ад ваўкоў.

Піонэр **Уладзік Кавалёў,**





# Чырвонашыйка.



Аб Васільку з чырвонай шыйкай
Песьню я пачну.
Барабан, гулчэй грымі ты
Ў нашую вясну.

Мы ідзем
З вясёлым маршам
Сьцежкаю лясной.
Запалалі сэрцы нашы
Новаю вясной.

Піонэр
Васілька Селін
З першага зьвяна,—
Вечна радасьць і вясельле
Ён прыносіць нам.

Ён прыкладным піонэрам
Ўжо вось цэлы год!
Сваім гальштукам
Пачэсным
Ён шчасьліў
І горд.

І гуляць і працаваць аж—
Да сямі патоў,
Шыю мыць

І чысьціць зубы
Ён заўжды гатоў.

Быў ахвоч стаяць на варце—
Хоць якая-б там пара.
Добра знаў жыцьцё і працу
Кожнага правадыра.

Ён на лыжах
І ў футболе
Найспрытнейшым быў.
На разьведку
Ён бяз страху
У лясы хадзіў.

І ва ўсім ён быў
Як прыклад
Для дзяцей, пакуль
Ня прышлось на вочы ўспасьці
Чорнаму быку.

Гэты бык пад клічкай „Асьпід“—
Грозны і страшны;
З ім гуляць не сабірайся,
Калі хочаш жыць.

Трасучы страшэнным рыкам
Поле й паплавы,
Нёс ён нізка свае рогі
Ля густой травы.

І к малому піонэру,
Як убачыў сьлед,
З сваёй грознаю манерай
Кінуўся, як леў.

І цяжкі пад капытамі
Быў бычачы скок.
Уцячы ўжо не пасьпее
Піонэр ў лясок..

— Кідай гальштук!
Кідай гальштук!!—
Закрычаў пастух,
— Кінь на зямлю!
Бык ня любіць
Гэтакіх-та штук.

Але як-жа піонэру
Здаць пачэсны знак,
Хоць якой-бы небясьпекай
Ні была яна.

І напружвае ўсе сілы
Селін на бягу,
Думае:—„не,
Чырвоны гальштук
Скінуць не магу,

Бо было-б гэта зьнявагай
Для ўсяго зьвяна,—
Пасьля гэтага
Якая-ж будзе нам цана?“

Але вось, як шчасьце ў рукі,—
Ля дарогі дуб.
Ён—да дубу й на галінку
Скочыў на хаду.

Сэрца б'ецца і трасецца—
Не падцягнеш рук,
Няма сілы перакінуць
Цела цераз сук.
Не трашчы ты, сук-галіна,
К зямлі ня хіні.

Нельга беднаму хлапчыну
Аглянуцца ўніз.

Капытом зямлю там рые
Грозны „Асьпід“-бык.
І чакае піонэра...
Што рабіць, як быць?

Ня пужайцеся за хлопца—
Ён тут не адзін:
На падмогу, як і трэба,
Ўсё зьвяно ляціць.

Не такіх яшчэ патрэбна
Будзе біць скатоў.—
На падмогу піонэру
Кожны стаць гатоў.



Тут такі падняўся гоман,
Шлёпат, сьвіст і крык,
Што, сагнуўшы хвост дрыжачы,
Адступае бык.

Што-ж Васіль наш?
Ён як быццам зусім не гэрой.
Або часам уцякаюць
Ад быкоў гэрoі?

Але гэтае здарэньне
Шмат гадоў 'шчэ шмат
Будзе помніць і у песьнях
Адзначаць атрад.

З расійскага верш **Асеева**.

# НЕБАСКРОБ.

Аднаго разу ў вялізным горадзе людзі пабудавалі вялізны дом. Глыбака пабудавалі яны яго, глыбака ў зямлю; высака пабудавалі яны яго, высака ў паветра. Цяпер, калі дом пабудаваны, людзі, якія праходзяць ля яго асновы, не заўважваюць, як глыбака увашоў ён ў зямлю. Але ніяк ня могуць не заўважыць таго, як высака узьляцеў ён у паветра. Шыі ў іх баляць, калі яны ўзьнімаюць уверх галовы, каб убачыць верх дому. Таму, што з усіх дамоў сьвету гэты небаскроб самы высокі.

Небаскроб стаіць у самым цэнтры вялікага гораду. З яго верхавіны можна бачыць увесь горад, можна горад чуць, можна адчуваць пах гораду — гораду, дзё людзі жывуць і працуюць.



Можна бачыць перапоўненыя вуліцы, якія мітусяцца на вачох з маленькімі людзьмі і маленькімі аўтомобілямі, месца таргоў з маленькімі таварнымі складамі, раку з яе чуць прыкметным мосьцікам і чуць прыкметнымі, але вялізнымі, параходзікамі і інш. Гарадзкі шум гучыць, як мурлыканьне далёкага зьвераволата. І над усім гэтым ляжыць пах газу і дыму.

Небаскроб стаіць у самай сярэдзіне вялікага гораду. Але з яго верху можна бачыць усю шырокую аколіцу. Там, дзе відаць зямля, распасьцерліся палі, як географічная мапа (карта). Далёка, далёка бягуць яны, пакуль ня губляюцца ў тумане і дыме. Там, дзе відаць вада, ляжыць вялічэзны, шырокі прастор акіяну, які сваёй шклянай блакітнасьцю імкнецца ў бязьмежнай далечы зьліцца з небам.

Гэты ўзьняты ў высь небаскроб — стварэньне людзей, многіх людзей. Гэта высокая суцэльная вежа (башня) спачатку зьявілася ў думках архітэктара-будаўніка. З зачыненымі вачыма ён яе бачыў і сваімі спрактыкаванымі пальцамі ён хутка зрабіў на паперы накіды пляну. Пасьля ў яго майстэрні шмат людзей сядзелі з цыркулямі і іншымі прыладамі за працаю над падрабязнай распрацоўкай пляну, пакуль ён ня быў гатовым.

Тады небаскроб пачаў расьці. Першыя людзі прынесьлі паравыя рыдлёўкі. Яны раскапалі зямлю на 100 футаў. Вялічэзныя ляпы паравых рыдлёвак прагрызалі каменьні і гліну. Яны хапалі вялізныя кавалкі зямлі, падымалі іх вялізнымі пад'ёмнымі машынамі і выплёўвалі на паверхню зямлі. Капалі яны глыбака, глыбака, пакуль не дашлі да цьвёрдага грунту. Пасьля людзі напоўнілі гэтую страшэнную яму сталёвай сеткаю. Сетка падпор была залітая пяском, цамэнтам і жарствой, каб маглі вытрымаць падпоры нязьмерны цяжар.

Напасьледак—і гэта быў нязвычайны дзень—вялізныя бэлькі пачалі ўзьнімацца. Зноў паставілі пад'ёмныя краны (спэцыяльныя машыны), якія таксама памалу, упарта і акуратна ўскідвалі кожную бэльку на сваё месца. Тысячы людзей мітусіліся на сталёвым касьцяку, адны заклёпвалі нагрэтыя да чырвана кавалкі жалеза, другія ахалоджвалі яго ў баках,—усе пад гукі кляпальнага варстату.

Кляпальны варстат крычаў, скрыпеў, пішчаў. Ён разьдзіраў сваім крыкам паветра бліжэйшых вуліц. Бліжэйшыя будынкі трэсьліся і адгукаліся рэхам. Небаскроб здаваўся жывым і дрыжэў, хваляваўся, з дзікімі крыкам паўтараючы песьню кляпальнага варстату.

Паверх за паверхам рос небаскроб.

Напасьледак небаскроб узьляцеў у паветра на шэсьцьдзесят паверхаў. Урэшце, зьявіліся муляры і заляпілі гэты волат-дом.

Хутка ў сярэдзіне яго людзі пабудавалі пад'-ёмныя машыны, якія ўзьнімалі чалавека на які хочаш паверх з зямлі. Усялякія рабочыя былі заклікаыы сюды і ўсе прышлі. Сьвет прыслухоўваўся да крыкаў гэтага небаскробу, які

стаяў у самай сярэдзіне вялікага гораду. З усіх канцоў Амэрыкі прывозілі патрэбны матэрыял для гэтага дому. Ён рос хутка. Яго асобныя часткі былі зроблены на заводах усёй краіны, а чыгункі адвозілі гэтыя часткі небаскробу.

У вялізным горадзе людзі пабудавалі гэты вялізны дом. Глыбака пабудавалі яны яго, глыбака ў зямлю, высака пабудавалі яны яго, высака ў паветра. І цяпер яны карыстаюцца гэтым будынкам, зробленым імі самымі. Небаскроб зьмяшчае ў сабе дзесяць тысяч чалавек. Цэлы дзень лазяць людзі ўверх і ўніз на машынах па гэтым доме, як мошкі па вялізным дрэву.

Але вось ужо пацямнелі і заціхлі вуліцы ў нагах небаскробу. На яго верхавіне зьяе вялічэзны сьвет. Праменьні прарэзваюць наскрозь туманы. І нават калі дзіка галосіць бура на моры ў глухую непагоду сьвет пратышчваецца да спуджаных параходаў, якія качаюцца на горах хваль. Бура вые і б'ецца аб высокі дом з зіяючым агнём на версе. Буры б'юцца аб яго сьцены, вежа хіліцца ад ветру, вежа з сталі і каменьня хіліцца і хіліцца аж на два футы. Пасьля, калі націск буры праходзіць, гэта вежа з сталі і каменьня адхіляецца назад, выпростваецца.

І вось у вялізным горадзе людзі пабудавалі гэты вялізны дом. Глыбака пабудавалі яны яго, глыбака ў зямлю; высока яны пабудавалі яго, высака ў паветра. Цяпер, калі ён скончаны, людзі, праходзячы ў асновы гэтага дому, не заўважваюць, як глыбака ўвашоў ён у зямлю. Але ніяк ня могуць не заўважаць, як высака ўзьляцеў ён у паветра. Шыі баляць у людзей, калі яны жадаюць глянуць на верхавіну гэтага дому. Таму, што з усіх дамоў сьвету гэты небаскроб, самы высокі.

**Люсі Спрэг Мітчэль.**

(З ангельскае мовы).

---

## ПІОНЭРСКАЯ ВОСЕНЬ.

Хай восень плача, вецер стогне,
І хмары сьцелюць цемрай дол,—
Мы піонэрскі сьцяг сягоньня
З табой узьнімем, Комсамол!

І нашы песьні юнай раці
Запаляць чырваньню, блакіт,
І ясным сонцам ў кожнай хаце
Адчыняць новыя вякі.

Мы праз навуку шлях пракожым,
Дзе зьзяе сьвет—гарыць.
Ніхто спыніць ужо ня зможа
Юнацкай вольнай грамады.

Хай восень плача, вецер стогне,
І хмары сьцелюць цемрай дол,—
Мы піонэрскі сьцяг сягоньня
З табой узьнімем, Комсамол!

**Валэры Маракоў.**

## ПЕРАД ЗІМОЙ.

Я, сялянскі падпасак Міколка,
Парадніўся з прыродай даўно,
Калі раніцай ўлетку чуць золак
Выганяў чараду за гумно.

Вось затым мне і шкода да болю
Хараства, шчабятаньня, вясельля...
А разьюшаны вецер у полі
Завывае ды сьвістам асеньнім.

Ды нічога: затое Мікола,
Калі сьнег пазасьцеле абшар,
З грамадою хлапцоў пойдзе ў школу,
Каб асіліць за год лемантар.

Заменю пугу й торбу на кніжкі.
Эх, зіма, я табе вельмі рад!..
Ў працы будуць хвілінаў лішкі,—
Ды яшчэ запішуся ў атрад.

**П. Глебка.**



# Санітарная комісія.

*(Малюнак).*

— У цябе была комісія?—запытаўся Антось у свайго суседа Міхася, спаткаўшы яго на рынку.

— Што, якая комісія, у чым справа?— занепакоіўся Міхась.

— Ды школьнікі-піонэры ня былі ў цябе? Твая-ж Надзя, здаецца, у тую самую школку ходзіць, што й мой Паўла?—пытаўся Антось.

— Комісія, школьнікі-піонэры?—нічога не разьбяру; ты проста раскажы ў чым справа?

— Справа вось у чым. Прыбягае на гэтых днях мой Паўла са школы і просіць у мяне якіх-небудзь непатрэбных мне дошчачак.

— Нашто табе?—пытаюся я.

— Бач, татуля, мы зараз у школе вывучаем чалавека...

— Ну, дык вывучайце сабе на здароўе, на тое-ж вы й ходзіце ў школу, а дошчачак! у мяне няма! Вось сядзь лепш ды пачытай, калі няма чаго рабіць!

— У нас пастанова была!—чую адказ:— кожны вучань павінен зрабіць плявашку і каб усе ў хаце туды плявалі. Потым, я кожнай раніцы павінен вільготнай анучкай сьціраць пыл з мэблі ,—адным словам—падтрымліваць чыстату ў кватэры... Рукі трэба трымаць у чыстаце.

— Як—кажу,—ты з маіх рук жывеш, ды яшчэ будзеш мне рукі аглядаць?! Дзе гэтакага розуму набраўся?

— Не—кажа—выбачай, тата, аб руках ня было пастановы, неяк мімаволі зманіў—само сказалася, а пра чыстату была пастанова: „Каб у кватэры кожнага вучня была такая самая чыстата, як і ў школе.“ Наша школьная санітарная комісія кажа, што калі мы гэтага ня зробім, дык ня варта й пра чалавека вучыць і нават у школу хадзіць!

— Пристаў, як смала:—дай дошчачку ды ўсё! І мусіў даць.

Змайстраваў ён гэту плявашку, насыпаў пяску дый кажа:

— Ну, цяпер усе павінны пляваць сюды, бо такая была пастанова!

— Цяпер жыцьця нам не дае:—ня плюйце на падлогу, бо як прыдзе,—кажа—наша санітарная комісія рабіць агляд,—мне будзе брыдка, што я ня выканаў пастановы нашае клясы.

— Ну што-ж, і прыходзілі?—запытаўся Міхась.



— А як-жа! Падыходзяць гэта да мяне троечка чысьценькіх дзетак (дзьве дзяўчынкі і хлопчык) з гальштучкамі і сарамяжліва пытаюцца:

— Тут жыве Паўла?

— Тут—кажу—а нашто ён вам?

— Мы—кажуць—санітарная комісія III клясы N-ай школы.

— Заходзьце, заходзьце!—сказаў я. Сам іду наперадзе, а яны за мной.

— Паўла!—паклікаў я:—да цябе таварышы прышлі!

І прышлося-ж мне якраз у гэты час забыцца аб плявашцы й плюнуць на падлогу! Мой Паўла пачырванеў, як рак, стаіць неба-

рака й лыпае вачыма; чуць ня плача хлопец! А тут гэта самая іхняя санітарная комісія стаіць. Узяў я малое дзіця на рукі, якое поўзала на падлозе, вышаў у другі пакой і слухаю, што яны будуць гаварыць. Аж адна дзяўчынка й гаворыць да Паўлы:

— Чаго-ж ты, Паўла, глядзіш? У кватэры брудна, па гразкай, заплёванай падлозе (а плюнуў я толькі адзін раз!) поўзае твой брацік, як табе ня сорамна?!

— А што-ж я зраблю, калі мяне ня слухаюць,—спрабаваў апраўдвацца Паўла.

— Папрасі, харашэнька дык і паслухаюць! Чаму-ж ты ня ўзяў свайго брацiка на рукі, калі бачыў, што ён поўзае па бруднай падлозе? Ён-жа можа набрацца якой-небудзь заразы, прынесенай са двара за нагамі! Ты-ж ведаў што гэта ня добра?

— Адным словам, шмат знашлі непарадкаў у Паўлы. Я ўжо ня выходзіў да іх. Пагаварылі яны яшчэ крыху, дый пашлі.

— Ну, што ты на гэта скажаш?—запытаўся Антось.

— А што-ж я скажу? Вядома, што ўсё гэта добра—нечага змалку да чыстаты прывыкнуць. Цяпер я бачу, што й для бацькоў ёсьць карысьць з гэтай „піонэрыі“: дзіця сабе і вучыцца і парадак трымаць прывыкае. Гэта добра! А цікава-б пабачыць гэту комісію! А штрафу яна часамі не наложыць?—пажартаваў Міхась на разьвітаньне.

— А што-ж?—комісія—можа й налажыць,—здалёку жартліва адказаў Антось.

Кожны з бацькоў пашоў за сваімі справамі, думаючы аб тэй пары, калі іх дзеці стануць дарослымі і ўвойдуць у склад комісій гарадзкога савету.

„У іх лепш пойдзе справа, бо яны будуць змалку добра організаваны“, думалі бацькі.

**К. Шапялевіч.**

---

БЛІСКАВІЦЫ НАД ЛЯСАМІ.

Бліскавіцы над лясамі
Вышывалі неба.
Мы пазналі добра самі,
Што паноў ня трэба.

Пяруны ў барох грымелі,
Расьцьвіталі верасы.
Бацькі нашы гора мелі
На сівыя валасы.

На цымбалах на яловых
Заіграем маладым:
Хто шукае сьцежак новых,—
Гэй, да нашай грамады!

Пойдзем разам, пойдзем дружна,
Перад намі—ўсе шляхі,
Бой апошні, бой напружны
Кліча усіх нас з пад страхі.

Над балотам, над чаротам
Паляцелі журавы.
Для паноў ня трэба шроту,—
Мы дадзём ім журавін!

Гэй-жа гэй, браты, за намі
Да квяцістых, сьветлых дзён.
Гэй-жа гэй, мы з пярунамі
Да комуны шлях кладзём.

**Ул. Дубоўка.**





# НАША ЖЫЦЬЦЁ.

## Гадавіна нашага атраду.

*(м. Старобін).*

17 кастрычніка мы сьвяткавалі гадавіну існаваньня нашага атраду.

Быў скліканы сход бацькоў піонэраў, на якім павадыр атраду зрабіў даклад аб працы піонэраў за мінулы год. Бацькі былі задаволены і прасілі часьцей рабіць такія сходы і знаёміць іх з працай атраду.

У вечары была выпушчана вусная газэта, ахвярованая гадавіне, і пастаўлена п'еска, зложаная самімі піонэрамі.

Гэтым мы закончылі сьвяткаваньне сваёй гадавіны.

**Рэдакцыя газэты атраду.**

## Жыцьцё нашага атраду.

*(с. Новая-Тухінь, Дубровенскі раён).*

Наш атрад організаваўся ў жніўні 1924 г. Заняткі вяліся спачатку пры ўдзеле настаўніка альбо сакратара ячэйкі ЛКСМ. Павадыр працаваў слаба. Шмат гутарак праведзена на сельска-гаспадарчыя тэмы.

Вялікай заганай нашага атраду зьяўляецца „мацершчына“, а другое—захаваньне павадыра атраду і яго памоцніка, якія ня выконваюць піонэрскіх звычаяў і законаў: скачуць, ядуць гарбузікі і г. д.

Ячэйцы ЛКСМ неабходна на гэта зьвярнуць увагу.

Пікор **А. Трошчанка.**

## Ніякае працы не вядзецца.

*(Дукора).*

Дукорскі атрад Ю. П. Менскай акругі організаваўся ў 1923 годзе. У вапошні час налічвае 27 асоб. Пераважная большасьць піонэраў—яўрэі. Спачатку атрад працаваў сяк-так, а пасьля 5-6 месяцаў праца ў ім зусім замерла. У атрадзе было раней 4 зьвяны. Насілі яны такія назовы, як, напрыклад: зьвяно „Электрыфікацыі“ і інш. Зразумела кожнаму, што апраўдаць у працы гэтыя назовы і нават разумець іх—вельмі цяжка.

Клюб быў раней пры хаце-чытальні, а цяпер зьмяшчаецца ў двух пакоях мясцовай больніцы. Клюб неабсталяваны добра. А самае галоўнае, у ім няма ні газэт, ні літаратуры. Толькі амаль што ня кожын дзень бачыш на століку парваную старую газэту дарэволюцыйнага выданьня.

Насьценная газэта, якая выходзіла раз у два месяцы, пісалася выключна на яўрэйскай мове і не магла абслугоўваць усіх дзяцей, бо шмат у атрадзе маецца і дзяцей сялян.

Піонэры атраду самі мала знаёмы з нацыянальным пытаньнем і ня тлумачаць іх вясковым дзецям. Вось чаму часта можна пачуць ад вясковых дзяцей, калі яны прыяжджаюць у мястэчка: „гэй ты, жыд“. Піонэр заместа ўсякіх тлумачэньняў адказвае: „мужык, хам“. Далей пачынаецца бойка.

Павадыр атраду сам мала зварачае на гэта ўвагі.

Так далей працаваць атраду нельга.

Шэф! дапамажы атраду наладзіць працу, без тваёй дапамогі ён хутка распадзецца.

**М. Горан.**

## Як організаваўся наш атрад.

*(Чырвоная Слабада, 31 атрад).*

Мы, дзеці вёскі Чырвоная Слабада, зусім ня ведалі, што такое піонэры і піонэрскія атрады. Але мы чулі, што па суседніх вёсках ужо існуюць атрады піонэраў.

У гэты час ячэйка ЛКСМБ паслала аднаго комсамольца на курсы павадыроў атрадаў у г. Менск. Вось гэты комсамолец, зьвярнуўшыся, расказаў нам аб піонэрах і організаваў у нас атрад, які зараз налічвае 30 чалавек.

Піонэр **Майзель.**

## Праца нашага атраду.

*(Піонэр. атрад імя Лазоўскага, г. Полацак).*

З часу свайго заснаваньня наш атрад працаваў дрэнна: ня было літаратуры, належнае дысцыпліны.

Зараз праца атраду палепшылася: ёсьць троха літаратуры, дысцыпліна ўзмацнілася. Пры атрадзе маецца група неорганізаваных дзяцей. Працаю сярод іх кіруе атрад.

Ужо выдалі адзінаццаты нумар насьценнае газэты. З'організаваны ячэйкі МОПР'у, авіяхіму. Атрад трымае сувязь з вясковымі піонэрамі, дапамагае ім літаратураю і парадамі

Ёсьць у нас і недахопы: няма клюбу мала кіраўніцтва з боку ячэйкі ЛКСМ.

Пікор **Розэмблюм.**

## Організуем атрады.

*(1-шы атрад Ю. П. ім. т. Адамовіча, м. Вузда)*

Пры ўдзеле Менскай яўрэйскай трэцяй базы Ю. П. рабочая моладзь м-ка Вузды была організавана ў піонэратрад. Ячэйка ЛКСМ вылучыла павадыра, які і вёў усю працу атраду. Савет атраду быў даволі пасыўным органам. З цягам часу павадыр атраду быў зьменены, і праца пашла ляпей. Савет атраду дае правільную нагрузку зьвеньням. Піонэры першага Вузьдзенскага атраду дзякуючы сваёй дысцыплінаванасьці дома, у школе і на вуліцы ўцягнулі ў свае шэрагі шмат дзяцей м. Вузды. Яны організавалі два новых атрады ў мястэчку, у якіх праца вядзецца па прыкладу 1-га атраду.

Апрач гэтага, піонэры правялі працу ў суседніх вёсках і мястэчках, дзе і організавалі піонэрскія атрады.

**В. Віткоўскі.**

## Наладзілі працу.

*(с. Доўгае).*

Спачатку наш атрад быў вельмі слабым. Мы ня мелі добрага кіраўніка. Але нам дапамаглі наладзіць працу піонэры з мястэчка. Яны добра растлумачылі нам, што такое комсамол, піонэры і г. д. Яны-ж навучылі нашага павадыра, як трэба павесьці працу ў атрадзе. Праца атрада наладжана і ідзе здавальняюча.

Піонэр **Міхась.**

## Шагаем наперад.

*(м. Семежава, Слуцк. акругі).*

Да гэтага часу праца ў нашым атрадзе вялася дрэнна. Піонэраў было ў атрадзе зусім мала: усяго адно зьвяно. Цяпер атрад налічвае ўжо тры зьвяны. Праца атраду наладзілася і вядзецца добра. На сходы піонэры зьбіраюцца акуратна. Ставім спэктаклі і за грошы ад спэктакляў выпісваем літаратуру.

Піонэр **Перапецкі.**



Піонэр наклейвае насьценную газэту ў вёсцы.

# ПА ШКОЛАХ.

## Вучнёўская конфэрэнцыя школ Сьвіслацкага раёну.

11-га кастрычніка 1925 г. ў м. Сьвіслачы адбывалася конфэрэнцыя вучняў бліжэйшых школ раёну. На конфэрэнцыі было разгледжана пытаньне аб новым самакіраваньні ў школе. Шмат гаварылася аб ролі піонэраў у школе. Было заслухана шмат указаньняў, як культурна падняць школы раёну. Сябра Гольдштэйн, прадстаўнік акружкому ЛКСМБ, добра пазнаёміў нас з нашымі задачамі на гэты год. Мы парашылі наладзіць сувязь школы з бацькамі вучняў.

Свіслацкая сямёхгодка ўжо прыступіла да выкананьня рэзолюцыі конфэрэнцыі па школьным самакіраўніцтве. Мы спадзяемся ў гэтым годзе добра паставіць школьную працу, выконваючы завет Леніна: вучыцца, вучыцца і вучыцца.

Піонэры **Я. Гярцовіч і Э. Эрэнтух**.

## Перамянілі погляд.

*(м. Дрыбін).*

У мінулым годзе вучні глядзелі на піонэраў і казалі: „Нашто вы носіце гэтыя чырвоныя анучы... Мабыць, каб цяплей было?“

У гэтым годзе погляд на піонэра зусім зьмяніўся: форпост стаў лепей працаваць. Ён праводзіць зборы, на якіх прысутнічае шмат вучняў. У „дзень ураджаю“ форпост наладзіў вечар пры дапамозе настаўнікаў. Цяпер шмат вучняў жадае ўліцца ў нашы шэрагі.

Піонэр **Пячкоўскі**

## Наладзілі працу.

*(г. Полацак, атрад Ю. П. імя Лазоўскага пры саюзе Саўпрацаўнікоў).*

У мінулым годзе форпост нашае школы працаваў дрэнна. На вучобу амаль што не зварачалася ўвагі. Настаўніцтва не прымала ніякага ўдзелу ў працы. Выдавалі сваю піонэрскую газэту, апрача школьнай газэты, адрываючыся гэтым самым ад неарганізаваных.

У гэтым годзе справа стаіць інакш. Форпост зьвярнуў увагу на вучобу, здолеў прывабіць для ўдзелу ў сваёй працы настаўніцтва. Сваёй піонэрскай газэты асобна не выдаем, а прымаем удзел у агульна-школьнай газэце.

Мы спадзяемся, што форпост будзе працаваць добра, неабходна толькі дапамога піонэраў.

Піонэр **Волкінд**.

## Форпост у школе.

*(м. Вузда, сямёхгодка).*

Ня вельмі даўно пры Вузьдзенскай сямёхгодцы арганізаваўся форпост піонэраў. Форпост адразу зацікавіў сваёй працай усіх вучняў. Сувязь з комсамольцамі добрая. Піонэры ходзяць на комсамольскія сходы, а комсамольцы ў сваю чаргу цікавяцца пытаньнямі піонэр-працы на зборах атрадаў. На сходы савету форпосту зьбіраюцца піонэрывучні ўсяго раёну. Форпост, такім чынам, зьяўляецца раённым форпостам для ўсіх піонэраў вучняў.

Сувязь з настаўніцтвам моцная. Настаўніцтва цікавіцца працай форпосту. Адзін прадстаўнік форпосту ўваходзіць у школьную раду, дзе і абараняе інтарэсы ўсіх вучняў.

Адна перашкода ў працы: форпост ня мае піонэрскай літаратуры, а выпісаць яе няма сродкаў.

**В. Віткоўскі.**



Піонэр за чытаньнем газэты.

# ВАКОЛ НАШЫХ ГАЗЭТ.

## Організавалі гурток корэспондэнтаў.

*(41 атрад пры заводзе імя Леніна, Нова-Барысаў).*

Пікоры нашае насьценнае газэты даўгі час ня былі організованы ў гурток. Праца вялася паасобку. Насьценгазэта была ня зусім добрай: пікоры ня ведалі аб чым і як пісаць у газэту. Цяпер мы з' організаваліся ў пікоргурток. На сходах гуртка абгаварваем пытаньні аб тым, як і аб чым пісаць у газэту, а таксама аб задачах і мэтах пікор-гурткоў.

*Корэспондэнты атраду*

## Выстаўка насьценных газэт.

*(г. Віцебск),*

Пытаньне, якое больш за ўсё цікавіла дэлегатаў 2-ой гарадзкой конфэрэнцыі Ю П., гэта пытаньне друку. На конфэрэнцыі была наладжана выстаўка насьценных газэт піонэратраду Віцебшчыны. На сьценах клюбу красаваліся рознага выгляду газэты. Вакол кожнае газэты—кучка дэлегатаў. Яны ажыўлена разглядаюць пабудову, форму і зьмест тэй альбо іншай газэты.

— Тут загаловак, памоему, дрэнны,— кажа адзін дэлегат.

Піонэры і вучні!

Пішэце, як выдаюцца ў вас насьценныя газэты, што перашкаджае ў працы, абменьвайцеся практыкай.



Група корэспондэнтаў г. Полацку.

Піонэры і вучні!

Узмацняйце сувязь з сваёй часопісьсю.

Выпісвайце, чытайце і распаўсюджвайце сваю часопісь.

— А ў газэце „Чырвоныя Гальштукі“ хлопцы не абменьваюцца сваімі думкамі аб прачытаных кнігах, —заўважвае другі дэлегат:—апрача таго, газэта ня мае аддзелу „Навука й тэхніка“...

Усе дрэнныя й добрыя бакі насьцен-газэт занатоўваюцца дэлегатамі ў блёк-нотах, каб на конфэрэнцыі агульнымі сіламі вырашыць пытаньне аб правільнай пастаноўцы насьценных газэт у атрадах і правільнай пастаноўцы працы рэдколегій.

**Ф. Гольдман.**

## Насьценная газэта ў нашым атрадзе.

*(м. Капыль, Случчына).*

Наш атрад выпусьціў 12 нумароў сваёй насьценнай газэты „Піонэрскі Сьветач“. Выходзіць у два тыдні раз. Рэдакцыйная колегія складаецца з 6-цёх асоб. Газэта добра абмалёўвае ўсё жыцьцё атраду і наогул усіх дзяцей. Газэтай цікавяцца ўсе і прымаюць у ёй актыўны ўдзел.

Піонэр **А. Б—ік.**

# РОЗНАЕ

## Дрэнны клюб.

*(г. Ворша).*

Цэнтральны піонэрскі клюб у нашым горадзе не зьмяшчае ўсіх піонэраў, якія прыходзяць пачытаць газэты і літаратуру.

У клюбе выбіты шыбы ў вокнах, дзьме вецер, холадна, на галовы піонэраў сыплецца сьнег.

Усё гэта перашкаджае працы піонэратрадаў.

Даўно пара адрамантаваць клюб...

Піонэр **Л. Дубнік.**

## Шэф адбіўся.

*(м. Капыль, 14 атрад).*

Над нашым атрадам трымала шэфства ЕПО. Спачатку шэф дапамог нам у нашай працы. Але з цягам часу шэф забыўся пра нас, а, вядома, бяз ніякае дапамогі атраду цяжка працаваць.

Брыдка старому шэфу пакідаць сваіх падшэфнікаў.

**А. Б.**

## Дайце шэфа.

*(в. Вадзяжы, Грэскі раён, Случчына).*

Цяжка працаваць нашаму атраду: няма сродкаў, мала літаратуры. Ніхто не дапамагае нам у гэтым, апрача культурна-асьветнага гуртка нашае вёскі. Але ён таксама мае мала сродкаў.

Піонэры гораду, адгукнецеся на наш покліч, дайце нам шэфа!

**Коршук.**



## Наш клюб.

*(в. Чырвоная Слабада).*

Клюб даў нам РВК. Гэта невялічкі пакойчык, але досыць добры. На сьценах вісяць розныя малюнкі і портрэты правадыроў і г. д. Маюцца куткі Леніна і зьвеньневыя, а таксама ёсьць маленькая бібліотэчка.

Клюб з большага абсталяваны.

**Л. Сорына.**

## Коопэратыў мацнее.

*(м. Капыль, Случчына).*

У мінулым годзе ў нашай сямёхгодцы быў заснованы дзіцячы коопэратыў. Спачатку коопэратыў быў слабым, меў мала сяброў і тавараў.

У гэтым годзе коопэратыў значна пашырыўся. Лік сяброў-пайшчыкаў узрос у два разы. Усё неабходнае для вучняў коопэратыў мае. Купіць можна куды таней, чымся ў прыватнага гандляра.

Піонэр **А. Малевіч,**

## Наша бібліотэка.

*(г. Мозыр).*

У нашым гор. Мозыры ёсьць піонэрская бібліотэка, але яна заўсёды зачынена. Піонэры прымушаны хадзіць у комсамольскі клюб, каб пачытаць газэты. Гэта перашкаджае працы. Неабходна хутчэй адчыніць сваю піонэрскую бібліотэку.

Піонэр 24 атраду **Файнберг.**

## Фізкультура кульгае.

*(Ст. Рудзенск, Менскай акругі).*

Вельмі закульгала фізкультура ў нашым атрадзе піонэраў. У весну яшчэ вяліся заняткі спортам, а ўлетку і не падумалі ніводнага разу сабрацца. Няма ў нас і кіраўніка па фізкультуры, які-б выхоўваў з маладога пакаленьня здаровую зьмену комсамолу.

Райбюро, паклапаціся аб гэтым, дай нам кіраўніка па фізкультуры.

Піонэр **Плашчынскі.**

## Наша сувязь з комсамольцамі.

*(г. Бабруйск, атрад Ю. П. пры саюзе мэталістых).*

Комсамольцы ячэйкі саюзу мэталістых цікавяцца сваёй зьменай. Яны прыходзяць на нашы сходы, дапамагаюць нам у працы.

На сходы ячэйкі мы пасылаем сваіх таварышоў, знаёмімся з працай і бытам комсамольцаў.

Няхай жыве моцная сувязь паміж пакаленьнямі!

**Шмідт.**

## Трымаем сувязь з мясцкомамі.

(*г. Магілеў, 24 атрад імя т. Адамовіча*).

Нашы атрад асобнымі зьвеньнямі прымацованы да мясцкомаў саюзу Саўгандлёвых служачых.

Зьвеньні наладжваюць свае куткі пры мясцкомах. У куткох праводзіцца ўся праца зьвеньняў. Апрача гэтага, піонэры дзяжураць у чытальні, пішуць у насьценгазэту. Піонэры таксама прымацаваны да розных комісій пры мясцкомах і да гурткоў: беларускага й політычнага.

У гадавіну існаваньня нашага атраду, мясцкомы далі нам падарункі: бібліотэчкі і гальштукі. Піонэры здаволены гэтай сувязьзю.

**Сымон.**

## Рыхтуем зьмену.

*(м. Капыль, Случчына).*

Пры 14 атрадзе Ю. П. з'организаваны атрад „Чырвоных Зорак“. Працу сярод іх вядуць піонэры: чытаюць ім маленькія даклады, газэты і інш. Некалькі падрыхтаваных „чырвоных зорак“ перадалі ў піонэры. У атрадзе яны трымаюць сябе вельмі добра.

Такім чынам, наш атрад рыхтуе сабе моцную зьмену.

**А. Ба—ік.**

## Сувязь з комсамольцамі ўзмацняецца.

(*вёска Бяседавічы, Хацімскага раёну, Калінінчына*).

Да гэтага часу сувязь з комсамольцамі ў нас была слабая. Цяпер яна паступова пачынае ўзмацняцца.

Комсамольцы пішуць у нашу насьценгазэту, прысутнічаюць на агульных сходах атраду і наогул дапамагаюць нам у працы.

Мы таксама з свайго боку стараемся ўзмацніць гэтую сувязь. Пішам у іх насьценгазэту, робім з імі сумесныя сходы і ўжо чатырох піонэраў перадалі ў комсамол.

З прыходам зімы мы думаем гэтую сувязь яшчэ больш узмацніць.

Піонэр **Р. Яфрэменка.**

## Агарод прынёс карысьць.

*(м. Грозаў, атрад імя Калініна).*

У сакавіку г. г. Р.В.К. даў нам агарод. Атрад падзяліў яго паміж зьвеньнямі. Зьвеньні засеялі агарод розным варывам і праз усё лета працавалі на ім.

Праца не прапала дарэмна: усё добра зарадзіла, як у добрага культурнага гаспадара. Гэтым мы дабіліся аўторытэту ад жыхароў нашага мястэчка.

У восень варыва прадалі праз свой дзіцячы коопэратыў і за атрыманыя грошы закупілі для атраду літаратуру.

Піонэрка **Т. Гразоўская.**

## Наш агарод.

*(М-ка Старобін).*

У весну гэтага году вучнямі нашае сямёхгодкі быў зроблены свой школьны агарод. На агародзе пасеялі трохі красак, маку і іншае агародніны. Усё расло добра. Але хутка разьехаліся вучні на летнія канікулы, і агарод зарос зельлем. Усё, што было пасеяна, змарнела і прапала.

Прыехалі ў восень вучні на заняткі, а на агародзе нічога няма. Так і прапала дарэмна наша праца. У будучыне, калі вучні захочуць зрабіць што-небудзь, ім трэба больш глядзець наперад, а не марнаваць дарэмна часу.

Пікор **Бяляк.**

## Атрымалі прэмію.

*(м. Грозаў, Грэскага раёну).*

Шмат працы было ўкладзена нашымі піонэрамі ў свой піонэрскі агарод. Але праца нашых піонэраў не загінула дарэмна. У восень яны ўбачылі вынікі сваёй працы: добрую агародніну. Лепшыя гатункі былі пададзены на сельска-гаспадарчую выстаўку, на якой атрымалі прэмію: бібліотэчку і пахвальны ліст. Мы спадзяемся, што на будучы год нашы піонэры таксама прымуць удзел у выстаўцы і атрымаюць яшчэ лепшую прэмію.

**Г. Фэдэр, Р. Сагаловіч, Л. Новадворац.**



## „Выпішам сваю часопісь“.

*(Матэрыял для жывой газэты).*

Удзел прымаюць падпішчыкі і непадпішчыкі. Агулам ня больш 10-ёх чалавек.

Спачатку на сцэну (або наогул на месца, дзе будзе чытацца газэта) уваходзяць пяць чалавек. Можна часткаю прыцягнуць да гэтае справа і акцябрат.

Усім піонэрам, якія будуць прымаць удзел у чытаньні газэты, трэба вывучыць ролі (можна і пад суфлёра). Ролі ня вывучвае толькі той, хто будзе чытаць газэту па часопісі „Беларускі піонэр“ № 11.

На сцэну піонэры ўваходзяць з часопісьсю ў руках.

1-ы (разгортвае часопісь)
Пасьля сходаў і клапотаў,
Пасьля ўрокаў—мы цяпер,
Гэй, рабяткі, піонэры, акцябраткі,
Пачытаем, пачытаем.

Усе: „Беларускі піонэр!“

2-гі: (любуючыся на вокладку часопісі, якая знаходзіцца ў руках першага)
Толькі пошта, бач, прывезла,
Новы, сьвежанькі, як ёсьць!

Усе накідваюцца на часопісь, кожны хоча першым сваімі рукамі абмацаць часопісь, разьлістаць яе.

3-ці: Не парвеце-ж, асьцярожна!
Гэта-ж наш сягоньня госьць!

4-ы: Ну, чытай, чытай, Гаўрыла!
Што на сьвеце дзе чуваць:
Як працуюць піонэры
І як трэба працаваць?

1-ы: Дай разгледзіць загалоўкі
І застаўкі, і канцоўкі.

5-ы: І ці ёсьць заметка Косьці
Аб форпосьце?

1-ы: (жартаўліва):
Пачакайце, куды лезеце з насамі!
Смаркачы ты вытры, Косьця,
Дык і знойдзеш аб форпосьце.
А спачатку вось аб гэтым:
„Выпішам сваю часопісь“.

Усе: Жывая газэта...
Чытай, чытай, мы слухаць будзем!

1-ы: Ужо няма больш дома працы,
Ужо ня трэба больш ганяцца
Нам з каровамі па лузе,—
За навуку ўзяцца мусім!

1-ы: Чытка, лекцыя, даклад
І ў зьвяне сваім загад.

5-ы: Ўсё за лета запусьцілі.

1-ы: Ўсё дагонім і асілім!

3-ці: А хто-ж нам будзе памагаць,
Каб дагнаць і працаваць?

4-ы: Дзе парады нам дастаць,
Што рабіць, з чаго пачаць?

1-ы: А дастаць іх вельмі лёгка,
Ня зусім яны далёка.
Трэ‘ каб кожны з нас цяпер
Падпісаўся на часопісь.

Усе: „Беларускі піонэр!“

1-ы: „Піонэр“ паможа ў працы;

Усе: Ўсе павінны падпісацца!

1-ы: Хто рыхтуе з сябе зьмену.
Комсамолу Беларусі,
Той павінен не дарэмна
Траціць час. Вучыцца мусіць,
І як жыць і як змагацца.

2-гі: Нас свая часопісь вучыць.

Усе: Таму й трэба на часопісь падпісацца!

У гэты час да папярэдніх хлапцоў-піонэраў з шумам і сьмехам убягае яшчэ пяць чалавек. Яны пачынаюць смэркацца на падлогу, лаяцца адзін на другога, як, напр.: Косьця—хвосьця, Валодзя—смалодзя і інш. Наогул вядуць сябе неакуратна, як піонэры. Пасьля раптам, заўважыўшы ў хлапцоў часопісь, накідваюцца на яе і далучаюцца да хлапцоў.

6-ы: (ужо па ліку з новых):
Гэта новы можа нумар?



1-ы: Адзіннаццаты. Ня ведаў!?.

6-ы: А я—трэці, думаў.

Усе: Ха-ха-ха... вось маеш!...

1-ы: Як відаць, зусім ты ня чытаеш.
Гэтак?

6-ы: Так... хоць, праўда, і нялоўка...

7-ы (падхоплівае словы 6-га, чым хоча абараніць яго, бо і сам-жа такі самы):

Няма грошы. Ў яго толькі пяць капеек. Ну, а трэба саракоўка...

8-ы: І ў мяне ня больш зьбярэцца..

9-ы: і 10-ы: У нас ня болей, здэцца...

1-ы (зьлёгка лаючы сваіх таварышоў):
Як ня брыдка, як ня сорам!
Ці-ж ня ўмееце складаць?

(Лічыць на руках) пяць да пяць (паказвае на ногі), да пяць да пяць.

Ну, а разам колькі будзе?

Усе ў пяцёх: Дваццаць будзе!

1-ы: Так, хлапцы, давай складацца
І усьлед-жа падпісацца

Усе: На часопісь „Беларускі Піонэр".

1-ы (паказваючы у бок непадпішчыкаў):
Брыдка-ж за вас нават мне!

2-гі: Усе дзеці нашай вёскі,
Падпісацца ўсе павінны.
Хай нясецца пагалоска:

Усе: Чытай сваю часопісь!

1-ы: А то часта йшчэ бывае:
Дзеці нашай цёмнай вёскі
Пра „угоднікаў" чытаюць,—
Кажа, лепшага ня мае
Ён нічога пад рукою.

3-ці: Усё нядбайнасьць вінавата,
Асабліва-ж піонэраў.
Ня выпісваем мы часта й самі
(паказвае пальцам на непадпішчыкаў)
І другіх не заклікаем.

2-гі: Дык далей ня будзе гэтак!
Хай-жа будзе нашай мэтай:




Усе: Ўсе чытаюць „Беларускі Піонэр".

1-ы: Хай ўсе пішуць і чытаюць

Усе: Сувязь моцную трымаюць
З „Беларускім Піонэрам!".

**А. Ч.**



# На вышыні 7.400 мэтраў.

Усе добра ведаюць, наколькі чалавечае жыцьцё й дзейнасьць залежаць ад надвор'я і ад тых зьяў (бур, улеваў, навальніц і г. д.), якія час-ад-часу праносяцца ў атмосфэры. Але мала хто ўмее растлумачыць гэтыя зьявы.

Профэсар Фрыдман (памёр у гэтым годзе) рашыў дасьледваць зьявы атмосфэры, дзеля чаго яму прышлося падняцца на аэростаце на вялізарную вышыню.

Тут мы прыводзім вытрымку з яго цікавага апісаньня лёту на аэростаце. Вось што ён піша:

Каля 7 гадзіны раніцы 18 чэрвеня 1925 г. лётчык т. Фэдасеенка і я яшчэ ў ангары вышэйшай вайсковай паветраплавальнай школы ўселіся ў кошык аэростату. Аэростат быў выведзены камандаю на руках на пляцоўку, і мы а 7-ай гадзіне і 10 хв. раніцы рынуліся ў вышыню.

Да гэтага моманту лёту надвор'е зусім сапсавалася.

Мы папалі ў надзвычайна магутны пласт воблакаў. На 1.835 мэтрах здавалася, што воблакі пачынаюць радзець, але гэта быў толькі канец першага пласту воблакаў, які пераходзіў адразу-ж у другі, і на вышыні 2.670 мэтраў воблакі зноў надзвычайна згусьціліся. Вадзяныя кроплі зьмяніліся на гэт й вышыні сьняжынкамі і лядзінкамі, а тэмпэратура ўпала да—2,5 па Цэльзію. На вышыні 3.170 м. скрозь воблакі паказалася сонца, і мы пачалі ўжо думаць, што воблакам ужо канец. Але, не! Гэта быў канец толькі другога воблачнага пласту. На вышыні 3.530 м. мы зноў папалі ў густыя воблакі і толькі а 10-ай гадзіне 19 хвіл. на вышыні 5.200 м. вышлі зусім з воблакаў і папалі на яскравае сонца, маючы над нашымі галовамі блакітнае неба.

На вышыні каля 6.000 мэтраў мы сталі адчуваць неабходнасьць „закусіць“ тленам (частка паветра, ад якой залежыць жыцьцё жывых організмаў). Адчуваньні на вышыні няпрыемныя: адчуваецца ўдушша, ідуць чырвоныя кругі перад вачыма, калоціцца, сэрца, часьцей стукае пульс. Затым зьяўляецца санлівасьць. Рабіць нічога ня хочацца, і самы просты ўчынак патрабуе вялікага напружаньня волі. Удыханьне-ж тлену адразу дапамагае.

Пакуль мы валаводзіліся з тленам, адбылося няшчасьце. Сярод поўнай цішыні раздаўся аглушыцельны выбух. Мы глянулі на верх і бачым, што аэростат атулены дымам. Зараз-жа мільганула думка: „гарым“. Надзеі на ратунак у гэтым выпадку вельмі малыя. Потым дым расьсеяўся, і мы ўбачылі, што наша скрынка з тленам лопнула. Адбылося вось што: на вышыні, дзе ціск малы, гуміляслыкавая пасудзіна расьперлася і разарвалася, газ (вільготны) вырваўся на свабоду, ахаладзіўся, і вільгаць згусьцілася ў выглядзе воблака, якое мы й прынялі за дым.

Аэростат лез усё вышэй і вышэй. У 11 гадзін 30 хв. мы дасягнулі вышыні 7.100 мэтраў, у 11 гадз. 51 хв. дасягнулі самай большай вышыні —7.400 мэтраў. На гэтай вышыні было больш за 20 градусаў марозу, але нам ня было холадна. Я ляцеў у сьвітцы і мне было зусім горача. Сонца пякло ня горш, чымся на поўдні.

Ведаючы, што наш запас тлену надзвычайна малы, я ўвесь час адмаўляўся дыхаць ім, застаўляючы тлен для лётчыка. Аднак, т. Фэдасеенка пагрозамі прымусіў мяне „карміцца“ тленам, і я думаю, што гэтыя яго пагрозы выратавалі мяне ад сьмерці.

Малюнак, які разгарнуўся перад намі, калі мы рабілі свой лёт над воблачным полем, быў захапляючым. У розных месцох над роўным воблачным полем узвышаліся высокія белыя ўзгоркі сьляпуча бліскучых на сонцы воблакаў. Між воблачнымі ўзгоркамі паветра было цалком запоўнена ледзянымі крышталікамі, якія пераліваліся на сонцы ўсімі колерамі радугі; здавалася, што гэтыя крышталікі выходзяць з аднаго бліскучага, яскравага цэнтру; спачатку мне здалося, што мы бачым нейкае зьявішча электрычнага парадку, і мне стала не па сабе, тым больш, што на небасхіле была бачна вялізарная навальнічная хмара ў выглядзе чорнага кавадла. Але потым я скеміў, што бліскучая куля, з якой іскрамі радугі рассыпаліся ўва ўсе бакі лядзінкі,—гэта нешта накшталт фальшывага сонца*).

У 13 г. 30 хв. мы пачалі спускацца. Наш баласт падыходзіў к канцу: мы мелі толькі 3 мяхі баласту ды сякія-такія прыпасы з харчоў.

У 17 гадзін на вышыні 3.800 мэтраў мы ўбачылі праз парадзеўшыя воблакі зямлю;

*) Фальшывае сонца—сьветлыя плямы на небе, якія атрымоўваюцца ў выніку праламленьня сонечных праменьняў у сьнегавым пыле.

першае, што нам кінулася ў вочы—берагі і шырокая вадзяная прастора.



Гэта было Ільмень-возера.

У 17 г. 15 хв. мы былі на вышыні 2000 м. Зямля была добра відаць, наш аэростат ішоў, як лепей ня трэба, толькі баласту ўжо ў нас ня было.

Мы апусьціліся да вышыні 300 м., кінулі якар, аэростат падскочыў і пачаў зноў павольна спускацца. Адусюль сталі зьбягацца сяляне,—мы крычалі ім у трубу, каб яны лавілі аэростат.

У 17 г. 31 хв. мы спусьціліся на рукі сялян.

Сяляне з ахвотай дапамаглі нам упарадкаваць аэростат, і праз некалькі дзён даволі ўтомнага і сумнага падарожжа мы 21-га чэрвеня 1925 г. прыехалі разам з нашым таварышом—аэростатам у Ленінград.

# Што было ў 1905 годзе.

Вось, таварышы, давайце пагутарым сёньня аб тым, што было 20-ць гадоў таму назад. Убачым, як вялі барацьбу рабочыя й сяляне за сваю ўладу, за тое, каб палепшыць сваё становішча. А становішча было тады вельмі дрэннае. Было многа беспрацоўных, рабочыя галадавалі. Цар душыў усякую свабоду. На сялян ускладалі вялікія падаткі. Жыць было цяжка.

Усё гэта было ў 1905 годзе.

І вось... справа была ў лістападзе месяцы. Холадна. Дажджы, хлюпота. Ішло да зімы. Я вам ужо казаў, што рабочыя й сяляне жылі дрэнна. У некаторых гарадох царскай Расіі, у Маскве, у Петраградзе, рабочыя рабілі забастоўкі, і забастоўкі ўзрасталі і ўзрасталі. Пераваліліся з аднаго гораду ў другі, Забаставалі друкары,—газэты перасталі выходзіць. Забаставалі чыгуначнікі,—стялі цягнікі. Электрычныя станцыі,—сьвет патух.



1905 г. Рабочыя ідуць к цару.

Гэта, відаць, была ня звычайная забастоўка, якая бывала ў царскай Расіі не адзін раз, а нешта больш сур'ёзнае.

Так з дня на дзень узрасталі забастоўкі. Да 29-га па новым стылі і 17 кастрычніка па старым стылі забастоўка ахапіла поўнасьцю ўсе заводы, фабрыкі, майстэрні. Да цара ляцелі гэтыя весткі, што ня толькі Масква й Пецярбург забаставалі, а што забастоўка перакідваецца і ў другія гарады. Палавіна Расіі не працавала. Царскі ўрад стараўся задушыць гэтыя забастоўкі казакамі і жандарамі. І шмат у якіх гарадох—Харкаве, Адэсе, Кацярынаславе войска нападала і страляла ў натоўпы бастуючых рабочых. Было шмат забіта і паранена. Царскі ўрад зьбянтэжыўся, ён лічыў расстрэлы самай лепшай мерай барацьбы з рэвалюцыйнымі рабочымі і сялянамі. Але ніякія расстрэлы, катаваньне няўзброенага люду ніякіх вынікаў не давалі.



1905 г. Мітынг.

І вось царскі ўрад пусьціўся на такую штуку: ён выдаў маніфэст, у якім гаварылася, што, быццам, царскі ўрад абвяшчае розныя свабоды слова й друку, дакляруе склікаць дзяржаўную думу і зрабіць іншыя „палёгкі“.

Было гэта 30-га кастрычніка.

Ня думайце, таварышы, што гэты маніфэст, дзе ўсё было маною, так танна даўся рабочым. Колькі нашых адданых і перадавых рабочых загубілі жыцьцё на барыкадах, абараняючыся ад войск і казакаў—служак царскага ўраду!..

Так, я казаў, маніфэст быў выданы і здавалася, што перамога ўжо ў руках рэволюцыі...

А наш настаўнік Уладзімер Ільліч Ленін вось што прыблізна казаў, даведаўшыся, што ў Расіі здарылася (яго тады ў Расіі ня было):

„Уступкі—гэта сапраўды перамога, але гэта яшчэ не вырашае становішча ўсёй справы свабоды. Цар далёка яшчэ ня здаўся. Самаўладзтва яшчэ існуе. Яно толькі адступіла, каб сабраць сілы для нападу“.

І правільна казаў Уладзімер Ільліч: на другі-ж дзень рашэньне ўраду, г. зн. маніфэст, зрабілася пустою непатрэбнаю паперкаю.

Пачаліся расстрэлы, зруйнаваньні, арышты; турмы напаўняліся рэволюцыянэрамі. Рабочыя й сяляне гэройскі абараняліся на барыкадах, але царскі ўрад меў у сваіх руках армію, казакаў і задушыў гэту рэволюцыю.

Але, як вы думаеце, ці задушыў цар назаўсёды рэволюцыйны рух рабочых?

— Вы кажаце: не!

Правільна, у кастрычніку 1917 году, праз 12 год, рабочыя перамаглі. І цяпер калі мы слухаем аб тым, што было 20 год таму назад, то нам здаецца, што ўсё гэта казка. Але гэта ня казка. Яшчэ і цяпер, хто хоча ўпэўніцца, можа ў Менску, у Вільні і іншых гарадох Беларусі ўбачыць тыя брацкія магілы, у якіх ляжаць гэтыя барацьбіты за свабоду працоўных.

1905 г. Сяляне-паўстанцы.

А цяпер мы, успомніўшы гэтых барацьбітоў і пакутнікаў за нас, сьпяём, сьпяём песеньку, якую любіў Ільліч,—

„Замучен тяжелой
неволей,
Ты славною смертью
почил,
В борьбе за народное
дело
Ты голову честно
сложил...“

# 9-га студзеня.

Студзень дзевяты з лічбай праклятай—
Памятны дзень!
Натоўп народу па галалёду
Ідзе к цару.
Прасіць чагосьці—міласьці?—злосьці:
Шашак і куль!
Гапон—прадаўца—у камілаўцы,
З „сьвятым“ крыжом,
За ім іконы пазалачоны,
Народ... Народ...
А вось палаты... ждуць цара-таты—
Мо' волю дасьць?
О, ён—ня тата, а кат пракляты,
Вораг свабод.
Народ ўвесь кленчыць, малітву енчыць,
Каб бог памог.
Ды цар даў ласку...
Гусары ў касках
На конях-зьмеях,
Паўзьняўшы шапкі,
Ляцяць завеяй,
А там драгуны
Пусьцілі тулі,
Грымяць пяруны
Ды сьвішчуць кулі.
Народ у трывозе...
Ён памыліўся
У царскай падмозе:
Крывёй абліўся...
Дзе сьнег бялюткі блішчэў з марозу,
Там дзень цалюткі лілісь кроў, сьлёзы,
Там плакаў бацька па дочцы, сыну.
Народу многа ўзяла дамавіна.
І вось штогод мы успамінкі будзім
Пра дзень пракляты—той дзень дзевяты,
Як цары-каты з сумленьнем сьцятым
Нам кроў спускалі, шчамілі грудзі...
Таго ня будзе,
Таго ня будзе!
У горне барацьбіцтва,
У буры змаганьня
Наш паратунак!
Кончан рахунак!
З царом і катам,
З жыцьцём праклятым!
Наша сяўбіцтва—
Сусьвет-паўстаньне,
А нашы ўруны
Абшар комуны!

**А. Гурло.**

# АКЦЯБРАТЫ.

## Як Рабушка знашла сабе хату.

Жыла была кошка. Яна была чорная з белымі і жоўтымі лапінкамі, і дзеці на вуліцы далі ёй імя Рабушка. У Рабушкі ня было сваёй хаты і ёй прыходзілася жыць на вуліцы. Калі ёй хацелася есьці, яна знаходзіла якія-небудзь агрызкі, што заставаліся на кухні. Бедная Рабушка была вельмі худзенькая і няшчасная. Яна цягалася па вуліцах і жаласьліва мяўкала. Аднаго разу Рабушка йшла па плоце. Ёй вельмі хацелася знайсьці сабе хату. І яна замяўкала:

— Мяў, мяў!
Няма чаго мне есьці,
Няма дзе заснуць.
Пашкадуйце хто-небудзь!
Мяў, мяў, мяў!



Раптам яе маленькі чырвона-жоўты носік пачуў нейкі пах. Рабушка ведала, што гэта пах дыму.

Дым ішоў з коміна на страсе. „Дзе дым, там ёсьць і агонь,—падумала Рабушка,—а дзе агонь, там цёпла ляжаць“. Рабушка саскочыла з плоту і на сваіх маленькіх мяканькіх лапках пабегла да дзьвярэй. Ля дзьвярэй яна ўбачыла пустую бутэльку, у якой было малако. „Дзе стаяць бутэлькі ад малака, там павінна быць і малако, а калі ёсьць малако, добра-б яго напіцца“. І яна пратышчылася ў дзьверах. Тут была дужа цёплая кухня. Рабушка паціханьку падышла да печкі і згарнулася ля яе ў клубочак. Яна была цяпер вельмі здаволенай, заплюшыла вочы і пачала муркаць:

— Мурр, мурр.
Я згарнулася ў клубок,
Добра легла на бачок,
Мне тут цёпленька ляжаць
І драмаць.
Мурр, мурр,
Мурррр, мурррр.

Трах!—расчыніліся дзьверы. Рабушка заморгала санлівымі вочкамі. Перад ёй стаяла сярдзітая-сярдзітая жанчына. Сярдзітая жанчына схапіла Рабушку і выкінула яе за дзьверы.

— Вон, вон,
Валачашчы кот,
Вон, вон,
Далей ад варот!

Адным махам Рабушка ізноў ускочыла на плот.

— Мяў, мяў,
Няма чаго мне есьці,
Няма дзе заснуць.
Пашкадуйце хто-небудзь!
Мяў, мяў, мяў!

І яна ізноў пацягнулася па плоце.

Трошкі пачакаўшы, ізноў нешта пачуў яе маленькі чырвона-жоўты носік. Рабушка супынілася перад домам з двума дымавымі комінамі. З комінаў ішоў дым.

„Там, дзе гарыць два агні, там знойдзецца месца й для мяне“, падумала Рабушка. Яна саскочыла з дзьвярэй і на сваіх маленькіх мяканькіх лапках пабегла да дзьвярэй.

Ля дзьвярэй стаялі дзьве пустыя бутэлькі ад малака. „Дзе столькі малака,—падумала Рабушка,—знойдзецца хоць крыху й для мяне“.

Але дзьверы былі шчыльна зачынены. Рабушка подбегла да акенца. Акенца было

адчынена, і Рабушкаў скочыла ў яго. Яна апынулася ў другой цёплай, дужа цёплай кухні.

Тут таксама была печка. Рабушка паціханьку падышла да печкі і згарнулася ў клубочак.

Ёй стала цёпла.

Яна зачыніла вочы і тоненька замуркала:

— Мурр, мурр,
Я згарнулася ў клубок,
Добра легла на бачок.
Мне тут цёпленька ляжаць
І драмаць.
Муррр, муррр,
Мурррр, мурррр.

Фррр!—раздалося ля Рабушкі. Рабушка ўскочыла на ногі.—Ф-ф-ф!—адказала яна. Напроці яе стаяў вялізны чорны кот.

Ён выгнуў сьпіну, выскаліў белыя зубы, шэрсьць на ім узьнялася старчаком, вочы блішчэлі.

— Ф-ф-ф! Выходзь з маёй пасьцелі!
Ф-ф-ф! Вон ад майго агню!
Ф-ф-ф! Не чапай майго малака!
Ф-ф-ф! Вон з майго дому!

Рабушка адным скокам выскачыла праз акенца, а другім—на плот: бачыце, яна была маленькая і худзенькая, а чорны кот быў вялікі і дужы. І ён не хацеў, каб Рабушка заставалася ў яго доме.

Бедная Рабушка ізноў пацягнулася па плоце.

— Мяў, мяў!
Няма чаго мне есьці,
Няма дзе заснуць.
Пашкадуйце хто-небудзь!
Мяў, мяў, мяў!

Трошкі пачакаўшы, Рабушка зноў пачула пах дыму. Цяпер яна застанавілася ля дому з трыма комінамі. Дым ішоў з усіх комінаў. „Дзе ёсьць тры печкі, там напэўна знойдзецца месца і для мяне“, падумала Рабушка. Яна саскочыла з плоту і на сваіх маленькіх мяккіх лапках пабегла да дзьвярэй. Ля дзьвярэй стаялі тры пустыя бутэлькі ад малака. „Дзе гэтулькі малака, там павінны быць дзеці“, падумала Рабушка і вельмі ўзрадвалася. Але дзьверы былі шчыльна зачынены. Рабушка пабегла да акенца. Акенца таксама было шчыльна зачынена. Рабушка ўбачыла некалькі ступенек у драбінах і ўзьнялася па іх наверх. Там яна ўбачыла другія дзьверы і пралезла праз іх. Тут яна пачула такую цікавую песеньку:

Трашчу, рассыпаюся
Істужкаю ўюся,
Мацней разгараюся,
Вышэй цягнуся.

У печцы гарэў яркі агонь, а перад печкаю стаяў маленькі столік. А на століку стаялі два маленькія кубачкі з малаком.

Рабушка згарнулася ў клубочак пад сталом і пачала муркаць:

— Мурр, мурр,
Я згарнулася ў клубок,
Добра легла на бачок,
Мне тут цёпленька ляжаць
І драмаць.
Муррр, муррр,
Мурррр, мурррр.

Раптам—топ, топ, топ!—у хату ўбег маленькі хлопчык у белай кашульцы.

— Глядзі,—закрычаў ён,—якая прыгожая рабенькая кошачка сядзіць у нас пад сталом.



За хлопчыкам убегла маленькая дзяўчынка.

Глядзі,—закрычала яна:—кіска прыбегла павячэраць з намі!

Хлопчык хутка паставіў на падлогу сподачак і адліў у яго крышку малака. Дзяўчынка зрабіла тое самое—адліла ў сподачак крышку малака з свайго кубачка.

Раз-два, раз-два,—жвава забегаў чырвоны язычок Рабушкі па сподачку і пачаў хлябтаць малако.

Пасьля Рабушка чысьценька вымыла сваю мордачку, згарнулася ў клубочак, зажмурыла вочкі і пачала муркаць.

Яна як быццам гаварыла на сваёй мове:

— Дзякую вам, хлопчык і дзяўчынка! Я так рада, што нашла сабе хату.

Мурр, мурр,
Муррр, муррр.

**Мітчэль.**

# Сон юнага авіатара.

*(Апавяданьне).*

Васіль Дубаў — храбры піонэр. Ён нават на самалёце лётаў. Будуе сам маленькія самалёцікі, якія завуцца модэлямі. Васілёк—сябра авіохіму і думае ўсё аб адным. Думае аб паветры. Хоча на жалезным коніку лётаць. Хоча рукамі паветра мацаць. Ляжа спаць, але ня сьпіцца яму; сны прыходзяць дый такія цікавыя, што нават расказаць ня ведаю як. Але адзін з іх раскажу вам.

Гэта было ў нядзелю, бо бацька быў у хаце, а ня йшоў на працу. Раніцаю было добрае надвор'е, але пад вечар вецер нагнаў столькі хмар, што аж цёмна стала. Загрымеў гром, заблішчэла маланка і паліў дождж. Наш гэрой быў адным з авіатараў і загадваў музэем, дзе і застала яго навальніца. Прышлося ісьці да хаты ў гэты дождж. А ў хату прышоў мокры, як курыца: вада ліла, як з вядра. Крыху абсохшы, ён лег спаць.

— Ух-х-ра... Ух-х-ра... Ух-ры...—храпе наш авіатар і сьніць цікавы сон.

Дванаццаць... Шаснаццаць... Семнаццаць... Дваццаць... мінула яму сонных год. Васіль Дубаў—прыгожы, здаравенны комсамолец атрымлівае командыроўку ў школу паветранае флёты, у тую школу, аб якой ён дзесяць год думаў і рыхтаваўся.

За дзесяць год ён шмат начытаўся розных кніжак, чытаў пра паветраную флёту і зараз добра ведае самалёт, яго пабудову, ведае як ім кіраваць...

Радасны й бадзёры вучыцца Васіль у школе. Дні бягуць, бягуць месяцы і гады... Вось ужо тры гады, як ён вучыцца ў тэй школе і добра кіруе самалётам.

Надоечы ўсе лётчыкі на лепшых машынах селі і паляцелі. Гудуць машыны, вецер вочы рэжа ім, а яны ляцяць і ляцяць.

Раптам насустрэчу чырвоным лётчыкам вылецела белае войска. Завязалася бойка. Засьвісталі кулі, затакаў кулямёт. Вецер насьвістваў: „у паветры вайна“. Біліся белыя з чырвонымі. Чырвоныя лётчыкі б'юць іх. Некалькі хвілін, і белыя мёртвымі падаюць на зямлю. Васька сам 10 самалётаў скінуў. Чырвоныя атрымалі перамогу...

Васька атрымлівае Ордэн Чырвонага Сьцягу і ад радасьці аж з ложка скуліўся. Тут ён устаў. Яму стала дрэнна і неяк сорамна, што гэта было ўва сьне, а не сапраўды. Ён думаў, што калі хлопцы даведаюцца, дык будуць з яго сьмяяцца.

Хутка певень прапяяў. Наш гэрой устаў, апрануўся і сказаў:

— Я буду лётчыкам.

Піонэр *Г. Баркан.*

*(„Маладняк“).*



Хлопчык хутка паставіў на падлогу сподачак і адліў у яго крышку малака. (*да стар. 23*).




**Загадка-жарт.**

**(дз. Міхалкі)**

Калі ўзяць частку фігуры і палавіну нагі, то што мы атрымаем?

**Загадка.**

**(дз. Міхалкі)**

Два сябры застанавіліся перад аднэй рэчаю і заспрачаліся:

— Гэта чорная,—сказаў адзін.

— Не, гэта чырвоная,—адказаў другі.

— Чаму-ж яна белая?—спытаў першы.

— Затым, што зялёная,—адказаў той.

Што гэта была за рэч?

**Шарада.**

Вазьмі кавалак коласа, частку саломы, хвост жураўля—і выйдзе прозьвішча аднаго вядомага палітычнага дзеяча зах. Эўропы.

**Задача № 4.**

З сярнічак складзены квадраты. Аднімеце 5 сярнічак так, каб засталося тры квадраты.

**Падбярэце рыфмы.**

„Бегаў бай па сьцяне
У чырвоным ка...
Байку баіў. Ой, лю-лі!
Жылі пчолкі у...

Бегаў бай па сьцяне
Шла вясна па...
Жылі пчолкі з году ў год,
Бралі ў соты з кветак...

Багаў бай па сьцяне
Ніхто пчолак не...
Самі мёд зьбіраюць той
Самі ласваюць...“

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | ш | б | а | в |
| я | а | п | ч | я | к | е |
| і | е | н | і | і | ы | с |
| м | а | о | р | е | л | о |
| а | к | с | ы | н | о | п |
| к | я | у | с | і | л | а |
| с | в | я | н | р | і | п |

Ходам каня (шахматны) і туры прачытаць адзін нявыкананы школамі лёзунг.

## Хто адгадаў задачы з папярэдніх нумароў.

1. *А.Баравік* разьвязаў задачу № 3 (час. „Бел. піонэр“ № 9—10)—*„Беларускі піонэр“* і задачку № 5 з таго-ж самага нумару—*„Я буду жыць, бо я мужык“*.

2. *В. Кахановер* адказаў на жартоўныя запытаньні: дзе рэкі без вады і гарады бяз людзей. Адказ: на *геаграфічнай карце.* Ён разьвязаў таксама зядачку № 3, зьмешчаную ў № 9—10.

3. *І. Старадынаў* разьвязаў задачы №№ 3 і 5, тыя-ж што і А. Баравік.

4. *Ліпа Шугаль і Абрам Рубін* разьвязалі задачы № 1 і № 3. Задача № 1 мае наступны адказ: поэты *Багдановіч* і *Алесь Гарун.*





# ПАШТОВАЯ СКРЫНКА.

## Адказы корэспондэнтам.

**В. Цэйтліну**. Пішы лепш, як працуе ваш атрад.

**Юнкору** (м. Семяжава). Ня пойдзе. Нязначны факт.

**Русаковічу**. „Няма клюбу" друкаваць ня будзем. Зьвярнецеся да комсамольскай ячэйкі і райбюро.

**З. Рубінштэйну**. „Аб шэфу" ня пойдзе. Магчыма, што шэф вашага атраду ня мае сродкаў, каб купіць вам новыя гальштукі.

**Матусэвічу**. „Ну, і піонэры" ня пойдзе. Пішы больш аб працы свайго атраду.

**А. Малевічу**. Допісы: „Хоць пад канец", „У школе будзе цёпла", „Атрады растуць", „Гурткі ёсьць", „Яшчэ адно памяшканьне", „Наша сувязь"—друкавацца ня будуць.

**Я. Курдычку**. Спазьнілася. Пішы больш.

**К. Пячкоўскаму**. Аб павадыру ня пойдзе.

**Завіляеву**. Рэдакцыя раіць табе пісаць лепш аб тым, што вы робіце ў сваім атрадзе, як працуе атрад. На агульныя тэмы пакуль што ты пісаць ня зможаш.

**Р. Бэрштэйну і Э. Левіну**. Аб М. Д. Т. ня пойдзе. Спазьнілася.

**Л. Сорынай і Р. Гальдзберг**. „Падарунак шэфа" друкаваць ня будзем. Пішэце больш.

**І. Чарткову**. „Зразумелі" ня пойдзе. Не апрацованы сюжэт ні п'еські, ні апавяданьня.

**А. Рубіну**. „Патрэбны гульні"—не навінка. Кожны атрад праводзіць тыя ці іншыя гульні. Калі ў вас яшчэ піонэры не праводзяць гульняў—узьнімі гэтае пытаньне на зборы атраду.

**С. Клёнавай**. Ня пойдзе. Шлі больш.

**Рыве Ж**. Напішы лепш аб гэтым у насьценную газэту.

**Н. Волкінду**. Аддзел аб працы з „Акцябратамі" ў нашай часопісі будзе організаваны.

**Р. Ефрэменку**. Рэшту грошай, якая засталася за падпіску на газэту „Юный Строитель" перавесьці ў лік падпіскі на час. „Бел. Піонэр" нельга таму, што аддзел, які прымаў раней падпіску, ужо ня існуе.

**Лібману Б**. Верш ня пойдзе. Слабы. Пішы лепш допісы прозай.

**Л. Кучынскаму**. Пішы, як працуе ваш атрад. Аб тым, як організаваўся атрад, друкаваць ня будзем.

**Русаку**. Спазьнілася.

**М. Баравіку, Жукаву**. Аб „Дні ўраджаю" ня пойдзе.

**Я. Старасьценку**. Пішы больш.

**П. Рубоку, Б. Браўдзе, Шамаўскаму зьвяну, Таўбіну, Бортнікаву, Найніку, Месьkіну, М. Махначу, Браўдэ, Летнікаву, Блюмкіну, Хавічу, Э. Бахрану—ня пойдзе.**

**Усім іншым корэспондэнтам, якіх корэспондэнцыі ня зьмешчаны, будуць дадзены адказы ў чарговым нумары.**

ЗАПЫТАНЬНІ: 1) Што трэба рабіць з піонэрам, які знаходзячыся год у організацыі, не дае ўрачыстага абяцаньня ў дзень Кастрычнікавай рэволюцыі?

Ці можна у „Б. Б." піонэр пасылаць допісы бяз марак.

Піонэр **Стучынскі**.

АДКАЗЫ: 1) Раней за ўсё трэба памятаць, што ўрачыстае абяцаньне піонэры даюць ня толькі ў часе сьвятаў. Піонэр, які год не даваў урачыстага абяцаньня, можа ўсё-ж такі застацца ў атрадзе, калі яму ня больш 16 год

2) К лі ў піонэра ці ў іншага корэспондэнта няма грошай, ён можа пасылаць допісы бяз марак.

**Запытаньня й адказы.**

**Пытаньне:**

1) З якога ліку асоб павінен складацца гурток пікораў?
2) Колькі часу павінен цягнуцца сход атраду?
3) Колькі разоў у тыдзень павінен зьбірацца атрад?
4) Як назваць сваю насьцен-газэту, адпаведна назьве атраду ці не?

Піонэр **Бакштаеў**.

**Адказы:**

1) Гурток дзіцячых корэспондэнтаў (а ня пікораў) можа складацца з любой колькасьці. У гурток могуць уваходзіць як піонэры, так і не піонэры.

2) Збор атраду працягваецца ня больш 2-х гадзін. У гэты лік павінна ўваходзіць гутарка—хвілін 15-20, гульні, фізкультура, сьпевы і г. д.

3) Збор атраду трэба праводзіць 1 раз у тыдзень, зборы зьвеньняў таксама 1 раз у тыдзень. Пасяджэньне савету лепей усяго праводзіць паміж адным і другім зборам так, каб ён меў магчымасьць падвесьці падрахункі мінулага збору і вызначыць плян наступнага.

4) Насьценную газэту можна назваць на толькі таксама, як і атрад. Насьценгазэта прымае назву рэволюцыйна-сымболічную (касьцёр піонэра, унукі Ільліча і інш.)

**Запытаньне:**

Што такое авіацыя?

**Б—ік.**

**Адказ:**

Навука аб тым, як лётаць на машынах у паветры, аб па будове гэтых машын-самалётаў, і ёсьць авіацыя.

**Запытаньні:**

1) Ці можна пісаць вершы і допісы ў „Б. П."на расійскай мове?

2) Колькі допісаў трэба напісаць, каб стаць корэспондэнтам?

Піонэр **Кітайчык**.

**Адказы:**

1) Можна пры тэй умове, калі піонэр яшчэ добра ня ведае беларускай.

2) Дзіцячым корэспондэнтам лічыцца той, хто піша ў газэту ці часопісь. Устаноўленых норм „колькі трэба напісаць" няма.

**Запытаньне:**

Ці можна неорганізаваным дзецям не піонэрскага ўзросту насіць „чырвоныя гальштукі"?

**Круглікаў.**

**Адказ:**

Дзецям не піонэрам ня можна насіць піонэрскія гальштукі, бо гальштук даводзіць, што дзеці організаваны. Яго могуць насіць толькі дзеці организаваныя ў піонэр-атрады.

**Запытаньне:**

Ці абавязкова насіць гальштукі тым піонэрам, якія перададзены ў комсамол?

**Б—ік.**

**Адказ:**

Піонэр, які перададзен у КСМ., застаецца піонэрамі як усе, ён павінен насіць гальштук і выконваць усе законы і звычаі піонэраў.

Выд нне НКА БС Р.

Рэдколегія: А. Якімовіч. М. Лабадаеў. П. Хэйфец.

## Зьмест



## Рыхтуйцеся да юбілею сваёй часопісі.

25 сьнежня гэтага году адбудзецца гадавіна з часу выхаду першага нумару часопісі „Беларускі піонэр". К гэтаму часу будзе выданы юбілейны нумар часопісі „Беларускі піонэр". Юбілей першай піонэрскай часопісі на Беларусі павінен зьявіцца вялікім сьвятам піонэрскага друку ў жыцьці кожнага піонэра. У дзень юбілею гадавіны сваёй часопісі кожны піонэр, кожны вучань, кожны грамадзянін, зацікаўлены ў справе выхаваньня трэцяга ленінскага пакаленьня, павінен сур'ёзна задумацца над наступнымі пытаньнямі:

— Што ты зрабіў карыснага за гэты першы год для пашырэньня сваёй часопісі?

— Ці выпісваеш ты сам і ці ўцягваў сваіх таварышоў на падпіску на сваю часопісь?

— Ці пішаш ты ў сваю часопісь?

— Якую карысьць дае табе часопісь?

— Чаго патвойму не хапае яшчэ ў часопісі?

— Што трэба ўвесьці ў яе, як палепшыць сваю часопісь?

Сур'ёзна прадумаўшы ўсе гэтыя пытаньні, трэба пастарацца кожнаму на далейшы час выжыць усе свае недахопы ў гэтым боку, якія толькі былі, а гэтым самым агульнымі сіламі мы зможам выжыць і тыя рэдакцыйныя недахопы, якія мелі месца. Асабліва-ж кожнаму піонэру трэба добра ўявіць сабе, што друк—гэта найлепшая зброя ў справе выхаваньня сяброў організацыі і пашырэньня яе шэрагаў. Дрэнны той піонэр і дрэнным будзе ён у далейшым і комсамольцам, які ня чытае той літаратуры, якая выхоўвае яго дастойнай зьменай комсамолу. Часопісь, газэта і кніга адбівае ў сабе вопыт людзей у агульнай іх працы і змаганьні.

„Беларускі піонэр" якраз і дае на сваіх старонках увесь той матэрыял, які неабходны кожнаму атраду, кожнаму піонэру і вучню ў іх працы, тэй працы, якая рыхтуе з іх добрых і сьвядомых сяброў Вялікага Ленінскага Комсамолу.

Нашы старэйшыя пакаленьні—Партыя і Комсамол надаюць вельмі вялікае значэньне піонэрскаму друку і яго заданьням. Піонэры павінны аб гэтым помніць. Піонэры павінны апраўдаць сябе перад Партыяй і Комсамолам у сэнсе пашырэньня свайго друку і пашырэньня сваіх ведаў праз свой друк.

5-я Ўсебеларуская нарада піонэрпрацаўнікоў таксама шмат звярачала ў сваёй працы ўвагі нашаму друку, асабліва часопісі „Беларускі піонэр".

Наш юбілей павінен прайсьці пад лёзунгамі: Бліжэй да сваёй часопісі, чытаць, пісаць і выпісваць сваю часопісь! Пашырыць лік дапішчыкаў у сваю часопісь!

Наша заданьне: Няма ніводнага піонэра, вучня, які ня выпісвае і ня чытае сваёй часопісі.

**А. Якімовіч.**

1-я Дзяржаўная друкарня. Заказ № 674. У ліку 2000 экз. Галоўлітбел № 14019.

# 5-ая Ўсебеларуская нарада піонэрпрацаўнікоў.

Некалькі тydняў таму назад адбылася 5-ая нарада піонэрпрацаўнікоў. Нарада вырашыла шмат вельмі важных пытаньняў аб бліжэйшых задачах піонэрскай працы.

**Што, галоўным чынам, адзначыла нарада.**

Раней за ўсё, нарада адзначыла тыя дасягненьні, якія маюцца ў нашай працы, напрыклад: паглыбленьне грамадзянскай працы, паляпшэньне здароўя піонэраў за лета і г. д.

Але, ня гледзячы на такія добрыя вынікі нашай працы, нарада адзначыла і шмат



недахопаў. Галоўныя недахопы заключаюцца ў наступным:

**Дысцыпліна піонэрскай арганізацыі аслабла.**

Піонэры пачалі забывацца аб сваіх законах і звычаях, піонэры не заўсёды трымаюць сябе добра, часта піонэры ў школе і на вуліцы не даюць іншым дзецям прыкладу, а наадварот. Нарада лічыць, што кожны піонэр павінен зьвярнуць сваю ўвагу ў бліжэйшы час на тое, каб палепшыць сваё трыманьне, выконваючы гэтым самым закон: „піонэр усім дзецям—прыклад“.

**Піонэры мала працуюць дома.**

Адзначыла нарада. Піонэры адмаўляюцца тым, што яны заняты ў атрадзе і таму дома нічога ня робяць. Бацькі, вядома, за гэта ня любяць піонэрскай арганізацыі і ня вельмі ахвотна пускаюць сваіх дзяцей у піонэры. Піонэр павінен дома добра працаваць, праводзіць піонэрскія звычаі і сачыць за акуратнасьцю і чыстатою.

**Не разумеюць сутнасьці ідэёвага імя атраду.**

Часта атрад, прыняўшы на сябе імя якога-небудзь правадыра і не атрымаўшы ад яго грошай ці кніжак, мяняе назву на імя другога таварыша, які не зьяўляецца прарадыром, але дае атраду грошы. Шмат піонэраў ужо зусім забылася, чаму атрад носіць назву правадыра і лічыць, што толькі для таго, каб атрымліваць грошы.

Нарада зазначыла, што з гэтым трэба весьці барацьбу, а таксама даручыць ЦБ распрацаваць гэтае пытаньне.

Вось, прыблізна, галоўныя недахопы. Маюцца яшчэ недахопы і ў галіне нацыянальнай і іншых, але мы ня будзем тутака на іх затрымлівацца.

**Узмацніць піонэрскі друк.**

Ухваліла нарада. Трэба палепшыць нашы выданьні, трэба зьменшыць кошт падпісной платы, для чаго ўсе піонэры і дзеці наогул, павінны падпісацца на выданьні. Апрача гэтага, нарада ўхваліла ў бліжэйшы час распачаць працу па выданьні асобных літаратурных твораў і брошур для піонэраў.

Пасьля нарады піонэрпрацаўнікі ўжо распачалі працу. Справа і абавязак піонэраў дапамагаць ім і праводзіць у жыцьцё пастановы нарады.

П. Х.

